5 лютага 2021 | № 5 (713)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Гісторыю робяць не масы, а асобы
стар. 10



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Наша будучыня на нашых плячах

Аксана КОЛБ

**Беларускі рэжым імкліва ператвараецца з аўтарытарнага ў таталітарны. Наўрад ці наверсе ведаюць, у чым адрозненне гэтых тэрмінаў, але там дакладна ведаюць, што, калі атрымаецца аднавіць кантроль, можна будзе яшчэ крыху пратрымацца.**

Калі яшчэ пару гадоў таму ўлада рэгламентавала толькі нашы знешнія паводзіны, то сёння яна спрабуе кіраваць нашым асабістым жыццём. Дзе гуляць і займацца спортам, з кім сустракацца, у што апранацца, якую пасцілу есці і што сушыць на балконах. Што далей?

Анансаваныя «генпракурорам» змены ў заканадаўстве, якія фактычна пазбавяць людзей любой магчымасці праявы абсалютна ўсялякай нязгоды, — апошняя спроба рэжыму ўтрымацца хаця б на некалькі гадоў. І толькі ад нас усіх залежыць, ці стане гэта спроба ўдалай.

У мяне няма прэтэнзій да Лукашэнкі. Усе гэтыя гады ён ніколі сабе не здраджваў. Упарта ішоў да сваёй крыштальнай мары — неабмежаванай улады. Атрымаўшы яе, як мог, стараўся ўтрымаць. Ён ніколі не дзейнічаў нахрапам. Усе гэтыя гады ён крок за крокам выпрабоўваў нашу «талерантнасць». Хіба адразу Беларусь стала такой, якой мы яе бачым сёння? Не. Кожны раз ён нібыта пытаўся ў грамадства: «Таварышы, можна зраблю так? Вам жа ад гэтага нічога, наадварот, чарка паўнейшая ды шкварка тлусцейшая». «А й праўда, — адказвала грамадства, — ну што з нас, убудзе? Ну, забароняць там штосьці, закрыюць, кагосьці аштрафуюць, пасадзяць, заб'юць... Гэта ж далёка, гэта ж толькі адмарозкаў. А мы ж — па-за палітыкай. Мы ж проста за чарку і шкварку...»

У мяне няма прэтэнзій да набліжаных чыноўнікаў і бізнесоўцаў, да розных там эйсмантаў і баскавых. Яны як могуць абараняюць свой лад жыцця, свой «дабрабыт». Ім абсалютна без розніцы, што будзе з краінай, з намі ўсімі. Яны б і краіну памянялі, калі б былі ўпэўненыя, што гэтак жа змогуць жыць у іншай. І яны будуць абараняць гэта да канца.

Я нічога не хачу сказаць тым міліцыянтам, амапаўцам ды іншым карнікам, якія білі, гвалцілі, здзекаваліся. Ніякія словы ім ужо не патрэбныя. Іх лёс ужо прадвызначаны. Гэтак жа, як і больш не хочацца нешта пытацца ў суддзяў і пракурораў.

Магу толькі пашкадаваць тых, якія шалёна кідаюцца на нашы сцягі. Яны дасюль вераць кожнаму слову дзяржаўных медыя. І яны калісьці з такім жа імпэтам будуць кідацца на абарону іншай улады.

Але сёння, як ніколі, я хачу звярнуцца да тых мільёнаў, якія ўсё яшчэ спадзяюцца ціхенька адседзецца ў куточку. Перачакаць ці дачакацца... Да тых, хто дзеля цвілой скарынкі гатовы здрадзіць сваім калегам. Да тых, хто нібыта ўсім сэрцам хоча пераменаў, але так баіцца пра гэта сказаць, бо раптам не працягнуць кантракт, не дадуць прэмію, не зацвердзяць праект... Да тых, хто люляе сваё сумленне словамі: «Я і так шмат раблю», «Будзе толькі горш», «Ад мяне мала што залежыць», «"Ябацек" не люблю, але і "ясветак" не падтрымліваю»...

Я хачу звярнуцца да тых, хто прачнуўся ў жніўні 2020-га, але дасюль намацвае пад ложкам тапкі, бо яшчэ не вырашыў, ці адважыцца ўстаць у поўны рост. Да тых, хто нібыта ўжо гатовы выказаць усё, што набалела, але чамусьці баіцца, што пачуюць не тыя. Да ўсіх тых, хто дасюль маўчаў ці выказваўся шэптам.

Калі і сёння вы прамаўчыце. Калі зноў заплюшчыце вочы. Калі адшукаеце чарговае апраўданне сваёй баязлівасці. Калі спакойна забудзеце пра ўсіх закратаваных, збітых і забітых. Заўтра ранкам прыйдуць за вамі. За кожным з вас па чарзе. І тады не пытайцеся, чаму так здарылася. Толькі ад нас залежыць наша будучыня. Гэта наша права і наш цяжар. Нам яго несці. На нашых плячах. Панурых ці акрыленых — вырашайце самі.

# Дзе лісты ад палітвязняў?

Паліна СЦЕПАНЕНКА

**Што новага (усё астатняе было) у рэпрэсіях 2020-2021 — для мяне гэта лісты, якія не даходзяць да адрасатаў за краты. Новы від катаванняў.**

Атрымліваецца, што чалавек піша з турмы, а яму не адказваюць.

17 студзеня прыйшоў ліст ад блогера Шэрага Ката (№7), адпраўлены з Валадаркі 5-га студзеня. З яго вынікае, што да Дзмітрыя даходзіць вельмі малая колькасць лістоў (у тым ліку і ад мяне).

Дзмітрый піша: «Прывітанне, сёння (05.01.2021) нарэшце атрымаў ад цябе хоць нейкую вестачку з верасня. У мяне гэта 3-ці твой ліст (а я каля 10 дасылала. — П.С.). А я пішу 7-ы цяпер. З другіх лістоў, што мне дасылаюць, даведаўся, што была нейкая перадача на "Радыё Свабода" пра лісты. На жаль, паштоўкі ўтрымліваюць вельмі мала інфармацыі, літаральна праз пару радкоў, магчыма, гэта для таго, каб дайшоў ліст. Яшчэ чамусьці ў лістах пішуць, што мала інфармацыі пра мяне, гэта неяк не вельмі праўдападобна гучыць. Чакаю адказу, можа будзе надзейней праз адваката, чым лістом».

А праз некалькі дзён прыходзіць ліст (№6) напісаны значна раней — у апошні дзень 2020 года — 31.12.2020 года: «Уважліва сачу за тым, што адбываецца ў краіне. Думаю, што да 9 жніўня людзі і самі ад сябе такога не чакалі, тым больш, што ніхто не мог уявіць, колькі і ў якім фармаце будуць праходзіць сацыяльна-палітычныя працэсы ў краіне. Добра, што звяртаецеся ў СМІ, а то некаторыя пішуць, што пра мяне мала інфармацыі і пра блогераў наогул, хаця пішу вельмі шмат лістоў і адказваю ўсім, хто ўказвае адрас. За снежань 130 лістоў напісаў, атрымаў нашмат менш, у цэлым лістоў было мала наогул. Са СМІ таксама думаў звязацца, пісаў у рэдакцыю "Брестской газеты" да таго часу, пакуль яны не закрыліся (4 лісты), у рэдакцыю "Новага Часу" (таксама 4 лісты), 1 ліст у рэдакцыю "Беларусь и рынок", але ніякай інфармацыі, што дайшло хоць што-небудзь, зваротнай сувязі няма. (...) Здароўе пакуль у парадку, не падводзіць, але і больш яго тут не становіцца».

Пішу Шэраму Кату рэгулярна. Не даходзяць лісты з пытаннямі і канкрэтыкай. Напрыклад, я ў адным лісце пыталася пра кнігі, якія ён мае магчымасць на Валадарцы чытаць, ліст не дайшоў, мяркуючы па адказах.

**Адрас для ліставання: Казлоў Дзмітрый Алегавіч, 220030, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1, к. 63, г.Мінск.**

***P.S.**: Рэдакцыя НЧ нарэшце таксама атрымала першую вестачку ад Дзмітрыя — паштоўку за нумарам пяць.*

# Што, калі БЧБ стане экстрэмісцкім?

Ігар ІЛЬЯШ

**Генпракуратура анансавала прызнанне нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкім.**

Такое рашэнне — цалкам лагічны крок на шляху пераўтварэння аўтарытарнай дыктатуры ў таталітарную. Менавіта гэтым пераўтварэннем Лукашэнка ўпарта займаецца апошнія паўгода, і нават дзіўна, што рукі да нацыянальнай сімволікі ў яго дайшлі толькі цяпер. Зразумела, што ў рамках таталітарнай мадэлі дзяржавы нельга захоўваць двухсэнсоўны статус БЧБ-сцяга: гэта значыць, з аднаго боку, называць яго паўсюль фашысцкім, а з другога — выкарыстоўваць незразумелы тэрмін «незарэгістраваная сімволіка». Зразумела, сцяг варта забараніць — тут Лукашэнка цалкам паслядоўны.

Толькі вось у рэальнасці ККД ад такога эфектнага ходу будзе роўны нулю, на супрацьстаянне ўнутры краіны гэта ніяк не паўплывае.

Па-першае, дэ-факта бел-чырвона-белы сцяг у апошнія паўгода і так быў забаронены аж да шызафрэнічнага абсалюту. Вынішчэнне стужачак і выразанне бел-чырвона-белага лёду, пераслед за крамольны колер штаноў, парасонікаў або бчб-зефірку... Ну куды ўжо больш? Прызнанне нацыянальнага сцяга экстрэмісцкім толькі спросціць бюракратычныя працэдуры для рэпрэсіўнай машыны. Цяпер міліцыі і суддзям не давядзецца нацягваць саву на глобус (кваліфікаваць зефірку як масавую акцыю пратэсту), а можна будзе адразу пераследаваць інішадумцаў за распаўсюд экстрэмісцкай прадукцыі. Толькі і ўсяго.

Па-другое (як бы гэта ні парадаксальна гучала), чым шырэй ПРАСТОРА забароненага, тым працэй выказваць пратэст і тым складаней кантраляваць забароны. І наадварот. Калі ў краіне трэнд на «адлігу» і «мяккую беларусізацыю», то можна дазволіць некальком дзясяткам тысяч чалавек з нацыянальнай сімволікай збірацца на «БНР-100» ля Опернага тэатра, бо ў рамках падобнага дыскурсу гэта не пратэст. Пратэст — гэта некалькі сотняў чалавек на паралельнай несанкцыянаванай акцыі на плошчы Якуба Коласа. З сотнямі працэй змагацца, чым з дзясяткамі тысяч. Цяпер жа любое спалучэнне чырвонага і белага будзе лічыцца пратэстам не толькі дэ-факта, але і дэ-юрэ. І калі кожны падобны акт пратэсту не будзе пераследавацца, то гэта стане дэманстрацыяй слабасці самой жа сістэмы. А адсачыць кожны такі акт фізічна немагчыма.

Аднаго жадання пабудаваць таталітарную дзяржаву мала — патрэбны яшчэ і рэсурс. Сацыяльны і эканамічны. А такога рэсурсу ў рэжыму Лукашэнкі няма. Гэта значыць, сістэма ставіць перад сабой загадзя невыканальную задачу.

У рэальнасці прызнанне БЧБ-сцяга экстрэмісцкім пацягне за сабой толькі адно істотнае наступства: гэта будзе канчатковы прысуд чырвона-зялёным сцягу. Тэрор 2020–2021 гадоў і так фактычна пазбавіў яго будучыні. Але цяперашняя атака на бел-чырвона-белы сцяг стане апошнім цвіком у вечку труны. З ілюзіяй магчымасці мірнага суіснавання дзвюх сімволік будзе скончана. Пасля падзення рэжыму Лукашэнкі чырвона-зялёны сцяг не проста перастане быць дзяржаўным — ён, цалкам верагодна, акажацца пад забаронай. Пад уздзеяннем грамадскіх настрояў падобнае рашэнне прыме кожны, хто прыйдзе да ўлады пасля Лукашэнкі. І такая забарона не выкліча ніякіх пратэстаў.

# Завод ператварыўся ў зону

**Ларыса Шанюк — адна з нямногіх рабочых БМЗ, хто адкрыта сышоў у стачку, патрабуючы спынення гвалту і непрызнання вынікаў выбараў. Яна прапрацавала на заводзе 31 год.**

Перад вамі гісторыя жыцця чалавека, завода — і наогул цэлай краіны.

— Можа, пафасна прагучыць, але я палюбіла наш завод з першага погляду. — распавядае Ларыса Шанюк. — Прыйшла ў 1989 годзе. Тады на заводзе было ўсё неабходнае: італьянскія, аўстрыйскія тэхналогіі, найноўшае абсталяванне, транспарт, аўтаматызацыя, камп'ютарызацыя ўсіх працэсаў, навучанне.

Наступілі цяжкія 90-я гады. Наш завод тады ўзначальваў Юрый Васільевіч Феактыстаў. Пасля яго больш такіх дырэктараў не было. Ён разам з камандай стараліся, каб людзі былі накормленыя, апранутыя, абутыя. Да яго многія хадзілі на прыём для вырашэння розных праблем — і ён дапамагаў.

Мы ўсе да гэтага часу ўспамінаем як бацьку роднага. Ён усё рабіў для завадчан, каб мы перажылі ўсе цяжкасці і завод працаваў. Але, на жаль, залаты час скончыўся менавіта з прыходам да ўлады Лукашэнкі.

У першы ж яго прыезд на наша прадпрыемства пасля выбараў ён сярод іншага як бы мімаходзь згадаў пра тое, што гэта не можа так быць, каб у міністраў і прэзідэнта зарплата была меншай, чым у дырэктара завода і сталявара.

Тут жа — чык, зарплаты знізіў разоў у 5–8 (у мяне асабіста з 200$ да 40$). Гэта цяпер стала зразумела, у чым справа была. А тады ўсе спасаліся на цяжкасці пераходнага перыяду.

Наш дырэктар спрабаваў супраціўляцца таму, што завод распрацоўваюць дагала, але супраць лому няма прыёму. Любімы прыём — узяць пад варту, як апошняга рэцыдывіста, з «маскі-шоу», выбіваннем звонку вокнаў, дзвярэй, тварам у асфальт. Патрымаць у турме, з прычыны адсутнасці складу злачынства праз месяц адпусціць. Так ён паступіў і з Юрыем Васільевічам.

Сталі мяняцца дырэктары. Наступіў 2003 год. Прыйшла новая каманда адміністрацыі на завод на чале з Андрыянавым (пару гадоў таму ён памёр).

Мы спачатку не разумелі, што адбываецца. Тых, хто спрабаваў абурацца (тады яшчэ былі начальнікі — выдатныя спецыялісты, дый працоўныя старой загартоўкі), тут жа звальнялі. На заводзе ўвялі шмат радыкальных правілаў. Завод пачаў ператварацца ў зону.

У графіку вылучылі час для сустрэч з калектывамі цэхаў. Звычайна іх праводзілі ў актавых залах, займала ўсе хвілін 40. Калі хто-небудзь з рабочых на пытанне дырэктара: «Якія ў вас праблемы?» — падымаў сур'ёзныя тэмы, то яго начальніка цэха маглі звольніць. Таму начальства хутка пристасавалася і стала выкручвацца. А рабочых, груба кажучы, ставіць у позу.

Людзі яшчэ спрабавалі задаваць пытанні, але з кожным разам усё больш неахвотна. Потым змяніўся склад прафкама. Сацыялка пагоршылася, гэта называлася «аптымізацыя для эканоміі сродкаў завода». Закранула ўсё. Ад аховы працы, здароўя і зарплаты, да нахабнага вымывання сродкаў прадпрыемства. Унікальных спецыялістаў звольнілі. Увялі кантрактную сістэму. Паменшылі адпачынак у вялікай колькасці работнікаў. І з кожным годам станавілася ўсё горш і горш.

Участак, на якім я працавала, быў шкодны вытворчасцю — і, адпаведна, стаж працы лічыўся інакш. Але раптам у нарматыўных дакументах з'явіўся запіс аб працы на ўчастку «без шкодных вытворчых фактараў».

Толькі шкодныя вытворчыя фактары ніхто не мог такім жа чароўным чынам выправіць. Гэта холад, спякота, пыл, у паветры ўся табліца Мендзялеева, пах фармальдэгіду ад кітайскіх матэрыялаў і да таго падобнае. Праца ў нязручным становішчы, дрэннае асвятленне, напружанасць у працы. Інжынер па працы, інспектар па працы на нашым участку ўсе фатаграфіі працоўнага часу рабілі, не выходзячы з кабінетаў, падганяючы ўмовы працы пад новыя «нормы». Увогуле, рабілі ўсё для ператварэння нашай працы ў рабскую.

На заводзе ўвялі асабістую матэрыяльную адказнасць за выпуск бракаванай прадукцыі, прэтэнзію па якасці ад спажыўца, хоць у пераважнай большасці выпадкаў справа была ў закупцы няякаснай таннай сыравіны і матэрыялаў, абсталявання, інструментаў.

З'явілася новая пасада — ідэолаг. Ідэолаг быццам бы правільныя рэчы казаў: «Ад кожнага залежыць агульны поспех». Мы верылі. Стараліся, бо цяжкі перыяд, як нам тлумачылі, а потым наступяць тыя самыя тлустыя гады, як любіў казаць дырэктар Андрыянаў... Дом, сям'я адыходзілі на другі, трэці план.

А потым надышоў той самы «тлусты перыяд», вось толькі далёка не для ўсіх. Для начальства. Яны сталі ездзіць на нейкія экзатычныя курорты, у іх пачалі з'яўляцца шыкоўныя аўтамабілі.

Па ўсім было відаць, што жыццё ў іх усіх, без выключэння, атрымалася. Толькі неяк не зрасталася ў мяне ў галаве — як так? Працуем на адным заводзе, у начальства — кожны дзень свята, а ты — чамусьці ніяк канцы з канцамі не можаш звесці.

Дзіцячыя сады ад заводаў перадалі гораду. Увялі заахвочванне начальнікаў артыкулам пад назвай «За эканомію заработнай платы». І пайшлі старанні начальнікаў усіх узроўняў і ўсіх кірункаў — эканоміць зарплату.

У 2010 годзе прыйшло іншае пакаленне — новы дырэктар, рабочыя, інжынеры. Прыйшло шмат людзей — чужынцаў, якія нічога не разумелі ў тэхналогіі, але якія імкнуліся паказаць актыўную дзейнасць. Завод з любімага карміцеля ператвараўся ў нейкі карны орган.

Праз тры гады я надарвала на працы спіну. Але афіцыйна адмянілі паняцце «шкодная вытворчасць», на мае скаргі ніхто не адрэагаваў і перайсці працаваць на іншы ўчастак не дазволілі. Прагнгнула працаваць. У мяне з'явілася кіла белай лініі жывата. Патрэбна была аперацыя і сродкі на аднаўленне. А заробак зноў зрэзалі. Начальства, замест адэкватнага стаўлення і дапамогі, дазваляла сабе пры калектыве адпускаць жарты з нагоды майго жывата.

Я спрабавала даказаць, што наш участак неабходна даабследаваць на наяўнасць шкодных вытворчых фактараў. Але ўсё ўперлася ў глухую сцяну нежадання начальнікаў займацца гэтым пытаннем. Толькі сёлета вырашылі звярнуць увагу на сітуацыю ў сувязі з выбарамі. Але, як і варта было чакаць — адмазка і маніпуляцыя інфармацыяй.

З'явіўся новы ідэолаг — чалавек з органаў. Метады працы відавочныя. Падпарадкаванне і кантроль. На жаль, варта прызнаць, што ў большасці завадчан не было сіл пратэставаць.

Мяркую, кіраўнікоў таксама запалохалі, што, калі не справіцца з рабочымі — усім будзе дрэнна. Да таго ж у большасці тых людзей, з якімі я працавала бок у бок, дагэтуль няма грошай, каб набыць гаджэты і чытаць навіны з інтэрнэту. Яны глядзяць навіны па ТБ, а што паказваюць — усе ведаюць.

Вось і атрымалася, што збольшага прапаганда спрацавала. Збольшага — абыякавасць да ўсяго таго, што адбываецца, і думка, што гэта дзесьці там з кімсьці адбываецца, а з імі нічога не здарыцца. Яшчэ страх. Крэдыт. У кожнага свае праблемы... Напэўна, толькі пусты халадзільнік вымусіў бы рабочых сысці ў страйк.

**Паводле ZUBR**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Нас б'юць — мы лётаем

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Відавочна, рэжым перастараўся з рэпрэсіямі. Чым больш «пасадак», чым больш шалёных прысудаў, чым больш людзей «закрываюць» — тым меншы страх. Гэта парадаксальна, але гэта насамрэч так. Цяпер адбываецца прыкладна тое ж, што было напрыканцы 1990-х — пачатку 2000-х гадоў.**




Калі ўзгадаць пратэсты 1996–1997 гадоў, прыгадваецца і праца рэпрэсіўнай машыны ў той час. Сесці тады на Акрэсціна нават на трое сутак — было «о-го-го» якое пакаранне. Аднак потым «суткі» пачалі даваць за тое, за што раней было хіба папярэджанне. І што ў выніку? У выніку прысуд адміністрацыйнага арышту стаўся звычайнай справай

На тыдні аўтару ютуб-канала «Слуцк для жыцця» Уладзіміру Няронскаму прысудзілі тры гады калоніі. На той жа тэрмін пазбавілі волі 23-гадовага Антона Валавіка. Такія ж тэрміны атрымалі тры ўдзельнікі забастоўкі на Жлобінскім БМЗ: Ігар Повараў, Аляксандр Баброў, Яўген Говар. І на тры гады абмежавання волі — так званая «хімія», — быў асуджаны 26-гадовы спартсмен Алег Мазгоў.

Паводле праваабаронцаў, цягам студзеня было вынесена мінімум 46 прысудаў па крымінальных справах.

Відавочна, што ўлады такім чынам спрабавалі запалохаць усіх астатніх. Маўляў, не спыніцца супраціў — паедзеце «на зону». Аднак дамагліся яны якраз адваротнага. Крымінальнае пакаранне нівелявалася так, як нівелявалася адміністрацыйнае. Перспектыва крымінальнага пераследу ўжо мала каго хвалюе, да яго ставяцца як да мажлівай непрыемнасці — і не больш. І, напрыклад, кіраўніца «Прэс-клубу» Юлія Слуцкая ў лістах і паведамленнях практычна спакойна гаворыць пра тое, што яна з сяброўкамі рыхтуецца, каб паехаць у гомельскую жаночую калонію.

То-бок, народ зусім згубіў страх. Бо, нягледзячы на «паказальныя» крымінальныя прысуды, людзі па-ранейшаму аказваюць супраціў, працягваюць выходзіць на вуліцы.

Каля дзвюх тысяч чалавек «выйшлі пагуляць» у нядзелю ў цэнтр Мінска. Затрымалі каля 200. 31 студзеня маршамі прайшліся Трактарны раён, Захад, Курасоўшчына, Чырвоны Бор, Змена. Акцыі былі ў Наваградку, Ратамцы, Лагойску. Заслаўе выйшла ўвогуле ад ранку. І гэта толькі тое, пра што мы ведаем. А колькі яшчэ куткоў краіны праводзяць «партызанскія» акцыі?

Уся справа ў тым, што народ — не перамагчы.

А ўлады ўсё накручваюць і накручваюць сабе праблемы. Напрыклад, паўстала ініцыятыва ўзмацнення жорсткасці пакарання за замах на жыццё супрацоўніка праваахоўнага органа ці вайскоўца. Такія дзеянні прапануецца караць пазбаўленнем волі на тэрмін ад 15 да 25 гадоў або пажыццёвым пазбаўленнем волі.

Да чаго гэта прывядзе ва ўмовах, калі за падобны «замах» лічаць падрапаную жаночымі кіпцюрыкамі шчаку? Да таго, што людзі пачнуць усур'ёз супрацьўляцца «праваахоўнікам». Адна справа — калі ты можаш (па сітуацыі) атрымаць за сарваную з твару амапаўца маску «суткі», а іншая — калі доўгія гады. І таму людзі пачнуць дзейнічаць з прынцыпу «калі ўжо пасадзяць — дык хаця б каб было за што».

Гэта не заклік да такіх дзеянняў, гэта папярэджанне праваахоўнікам і тым, хто прымае падобныя законы. Гвалт выклікае гвалт — і «спіраль эскалацыі гвалту» можа прывесці да непрадказальных наступстваў і сілавога супрацьстаяння. І ў гэтым супрацьстаянні ў «сілавікоў», што б ні казалі аналітыкі, шанцаў проста не будзе. Іх, у параўнанні з народам, вельмі мала. Думаю, многія з «органаў» ужо разумеюць, што нават 100 тысяч сілавікоў са зброяй не перамогуць мільён грамадзянаў Беларусі, калі нешта «выбухне». А такое магчыма ў любы момант. Тады не дапамогуць ні дубінкі, ні гумовыя кулі, ні нават «рэзервы» з Расіі, якія абяцаў Пуцін Лукашэнку ў жніўні 2020-га.

Не верыцца? А «званочак» ужо празвінеў. У Мінску «ў знак пратэсту супраць бяздзейнасці арміі» падпалілі танк, што павінен быў прыняць удзел у вучэннях пад Оршай. Падпалілі яго проста на чыгуначнай платформе. Мінабароны, канешне, паведаміла, што танк пацярпеў не моцна, і «перадае прывітанне з палігона». Але факт ёсць факт. Партызанскі край — ён такі.

Яшчэ адно глупства, агучанае Генпракуратурай, — прыраўняць бел-чырвона-белы сцяг і спалучэнне гэтых колераў да экстрэмізму. Канешне, генпракурор агучыў, што з такой ініцыятывай выступіла група «каля ста грамадзян». У адказ петыцыю супраць забароны БЧБ-сцяга падпісалі (на момант падрыхтоўкі матэрыялу) больш за 80 тысяч чалавек. Думаю, на момант выхаду газеты гэтая лічба перасягне 100 тысяч.

Гэта ў чарговы раз паказвае, хто тут народ — крыніца ўлады.

Можа быць, генпракурору і абыякавыя тыя сто тысяч подпісаў. Аднак, калі ён хаця б крыху юрыст, ён павінен думаць, як увасобіць у жыццё прынятае ім рашэнне. Па-першае, пад бел-чырвона-белым сцягам прымаў сваю першую прэзідэнцкую прысягу Лукашэнка. Выходзіць, яго трэба за экстрэмізм арыштоўваць? Па-другое, як казаў хрысціянскі дэмакрат Павел Севярынец, «бел-чырвона-белы сцяг — сцяг Хрыста». З гэтым можна паспрачацца, як і з тым, ці былі ў часы Хрыста сцягі ўвогуле. Але бел-чырвона-белая стужка — неад'емны элемент адзення праваслаўных патрыярхаў.

Калі на Вялікдзень амапаўцы ўварвуцца ў храм і пачнуць дубінкамі мутузіць мітрапаліта Веніяміна за «экстрэмісцкую сімволіку» на адзенні — той яшчэ будзе «эпік фэйл».

І яшчэ адна навіна, не вельмі прыемная для ўлады. Савет па правах чалавека ААН апублікаваў просьбу падаць матэрыялы пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі для дакладу спецыяльнага дакладчыка аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Канешне, прапанова накіраваная «дзяржавам, установам ААН, спецыялізаваным агенцтвам і звязаным з імі арганізацыям, міжурадавым і няўрадавым арганізацыям і нацыянальным праваабарончым інстытутам», дапісаў простага «чалавека з вуліцы» там не прадугледжана. Аднак можна ўявіць сабе, што найперш даведаецца пра нас свет. І якія высновы зробіць пры гэтым Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.

ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

## Вольга Класкоўская



**30 студзеня Вольга Класкоўская сустрэла Дзень народзінаў за кратамі, дзе яна знаходзіцца ўжо чацвёрты месяц. Як адчувае сябе Вольга, пра што піша, распавяла яе маці Людміла.**

— Я загадзя адправіла віншаванні дачцэ з нагоды яе свята. Хочацца, каб менавіта ў гэты дзень яна адчула нашу падтрымку і клопат. Ад самой Вольгі доўга не было лістоў. А потым я атрымала адказ на свой запыт у СІЗА і як дадатак — медыцынскую даведку ад начальніка медчасткі. Мне паведамілі, што Вольга была шпіталізаваная ў 5-ю бальніцу, дзе ёй правялі хірургічнае лячэнне і прызначылі лекі. Цяпер яе стан задавальняючы.

У лістах і падчас нашай сустрэчы я ўбачыла і адчула, як яна добра трымаецца і стараецца не паказваць выгляду, што яе нешта турбуе. Цікавіцца навінамі, бо, па яе словах, надта не хапае інфармацыі з волі. Пісала, што яшчэ ў Жодзіна атрымала адзін нумар «АіФ», у камеры чыталі навіны ўслых. Але газета «Новы Час», на якую яе падпісалі, да яе так і не даходзіць.

Вольга вельмі дзякавала за падтрымку ўсім неабыякавым беларусам. Лісты, дарэчы, ідуць да яе не толькі з Беларусі, але і з замежжа.

«Людзі дасылаюць шмат мілых паштовачак і малюнкаў, нават засушаныя кветачкі, — адзначае яна ў лісце. — Нацыя вельмі аб'ядналася вакол агульнай мэты і дэманструе моцную салідарнасць».

Вольга шчыра дзякуе за перадачы. Напрыклад, ёй вельмі прыдаліся рукавічкі: гарбату і каву даводзіцца піць з алюмініевых кубкаў без ручак.

Яна вельмі хвалюецца за маё здароўе. «Беражы сябе і перадавай прывітанне ўсім, хто пра мяне памятае і дасылае лісты, — піша яна. — Сонца выйдзе з-за хмараў. Хмары не могуць закрываць сонца вечна. З гэтай упэўненасцю мы бавім тут час і чакаем пераменаў да лепшага».

Я жадаю Волі ў дзень яе нараджэння, а таксама ўсім тым, хто цяпер знаходзіцца за кратамі, як кажуць беларусы, трымацца і не журыцца. Няхай яны адчуваюць, што мы, іх блізкія, заўсёды побач.

Пісаць Вользе Класкоўскай можна на адрас: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## Яўген Афнагель



**Каардынатар «Еўрапейскай Беларусі» больш за чатыры месяцы за кратамі. Ён адзначыць свой дзень народзінаў 7 лютага. Жонка Кацярына праз газету віншуе каханага.**

— З днём народзінаў, даражэнькі Жэня! Ужо больш за чатыры месяцы, як цябе забралі. Вельмі спадзяюся, што мы неўзабаве зможам сустрэцца і адзначыць твой дзень народзінаў як мае быць. Нешта са святкаваннямі нам не шанцуе апошнім часам: двойчы запар ты сустрэў новы год у турме, мой дзень народзінаў правёў на Акрэсціна (ці гэта было ўжо Жодзіна?), а цяпер сустракаеш свой — на Валадарцы.

Спадзяюся, вы з хлопцамі створыце святочную атмасферу і годна адзначыце. А торцік і арэшкі са згушчонкай, якія я перадам, палепшаць гэты дзень і падымуць настрой. Перад тым, як есці торцік, не забудзь загадаць жаданні!

2020 год навучыў нас не адкладаць на потым тое, пра што даўно марылі. Так што зычу табе хутчэй аказацца на волі, рабіць тое, што падабаецца, ажыццявіць усе мары і аб'ехаць увесь свет.

Да твайго арышту мы паспелі набрацца ўражанняў. Так што, калі будзе сумна, успамінай зорнае неба ў Сахары, нашы прыгоды ў Танзаніі, паездку на аўто па ЗША і шмат-шмат усяго добрага, што было. Я ўпэўненая, што наперадзе нас чакаюць выдатныя падзеі, мы перажывём гэты няпросты перыяд і будзем цаніць кожную хвіліну, якую прабавілі разам.

Да віншаванняў далучаюцца Шчіў, Фрэя, Норы і нават котка, з якой у цябе няпростыя стасункі =). Яна таксама вельмі цябе чакае! Абдымаю!

Адрас для ліставання з Яўгенам: СІЗА-1, 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

а Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Хто спарадзіў, той і павінен забіць




**Адзіны палітык рэдка прызнаецца ва ўласным бяссіллі. Адзінае тлумачэнне — маштаб праблемы, які даўно перасягнуў межы Беларусі.**

Чалавек, які паталагічна не здольны адказваць за зробленае, усё тое негатыўнае, што адбываецца ў зоне яго адказнасці, будзе тлумачыць знешнімі абставінамі. Лялькаводы для такога чалавека — дарунак нябёсаў. Іх галоўная вартасць палягае ва ўніверсальнасці. Што б ні пайшло не так у палітыцы, эканоміцы або на побытавым узроўні, тлумачэнне заўсёды знойдзецца.

Для любой улады каляровая рэвалюцыя — гэта заўсёды не так. Але перш, чым паспрабаваць даць ацэнку гэтай з'яве, працытую расійскага эканаміста Вячаслава Іназемцава: «На працягу апошняй чвэрці стагоддзя практычна ўсе масавыя пратэсты ў посткамуністычных краінах **пачыналіся на глебе электаральных фальсіфікацый** (вылучана. — **С.Н.**), а фатальнай памылкай уладаў аказвалася дапушчэнне хоць бы адносна свабодных выбараў (як у Сербіі ў 2000 годзе, у Грузіі ў 2003-м, Украіне ў 2004-м і нават у Беларусі ў 2020 годзе, дзе ўлады ўсё ж такі дапусцілі рэгістрацыю Святланы Ціханоўскай). Правалам часта заканчваліся і спробы "перафарматаваць" тыя ці іншыя ўладныя інстытуты (як гэта здарылася ў Малдове ў 2009 годзе і ў Арменіі ў 2018-м)».

Прапаную сканцэнтравацца на вылучанай частцы цытаты. Стаўленне да выбараў — раздарожжа. Ад таго, прызнае чалавек вынікі выбараў сфальсіфікаванымі ці не, залежаць ацэнкі ўсіх наступных падзей.

Афіцыйныя прадстаўнікі дзяржавы для народа масавыя пратэставыя выступленні (каляровыя рэвалюцыі) тлумачаць актыўнасцю лялькаводаў. Згадаем словы праўладнага палітолага і філосафа Аляксея Дзерманта: «Супраць нас працуе сур'ёзная міжнародная каманда прафесіяналаў. Дастаткова выразна прасочваецца план дзеянняў. Глядзіце, колькі было варыянтаў — іх не падрыхтуеш за пару дзён. Усё гэта рабілася загадзя і старанна. Магчыма, з дапамогай матэматычнага мадэлявання».

Канструяваць сказы з выкарыстаннем фразеалагізму «матэматычнае мадэляванне» дадзена не кожнаму.

### Маркс супраць Дзерманта або Дзермант супраць Маркса

Маркс да каляровых рэвалюцый не дажыў. Ён абмежаваўся апісаннем буржуазных рэвалюцый. У прадмове да «Крытыкі палітычнай эканоміі» чытаем: «На вядомай прыступцы свайго развіцця матэрыяльныя прадукцыйныя сілы грамадства прыходзяць у супярэчнасць з існуючымі вытворчымі адносінамі... З формаў развіцця прадукцыйных сіл гэтыя адносіны ператвараюцца ў іх кайданы. Тады надыходзіць эпоха сацыяльнай рэвалюцыі».

Чым рэвалюцыі паводле Маркса адрозніваюцца ад рэвалюцый паводле Дзерманта? У першым выпадку рэвалюцыі — вынік назапашаных аб'ектыўных супярэчнасцяў, вырашыць якія немагчыма ва ўмовах нягнуткіх (пераўтвораных у кайданы) вытворчых адносін. Адсюль вызначэнне рэвалюцыі як лакаматыву гісторыі — таму што іншага інструмента, каб зламаць кайданы, у распараджэнні дабуржуазных грамадстваў папросту не было.

З пераходам ад жорсткіх манархічных канструкцый да грамадстваў буржуазных такі інструмент — усеагульныя выбары — з'явіўся. Ён і дазволіў у аператыўным рэжыме карэктаваць вытворчыя адносіны. Менавіта выбары, а не вычарпанне міфічнага ліміту, і падвялі рысу пад эпохай рэвалюцый у Еўропе.

На жаль, сацыяльныя інавацыі новага часу толькі крыху закранулі Расійскую імперыю. Спроба ў лютым 1917 года адмяніць саслоўі, без чаго немагчыма роўнасць усіх грамадзян перад законам, была рашуча спыненая бальшавікамі. Праз 73 гады на постсавецкай прасторы ніхто, акрамя прыбалтаў, так і не здолеў сур'ёзна прасунуцца ў вырашэнні задач буржуазных рэвалюцый.

Тое, што мы маем сёння, — адна вялікая імітацыя. Праблемы, з якімі сутыкаліся імітатары ў эпоху тэлебачання, аказаліся кветачкамі ў параўнанні з цяперашнімі ягадкамі. Час не пацвердзіў мары культавага героя савецкага фільма «Масква слязам не верыць», які сцвярджаў, што ў будучыні застанецца «адно суцэльнае тэлебачанне». Сёння на гэтую ролю здольны прэтэндаваць толькі інтэрнэт, галоўнай вартасцю / недахопам якога з'яўляецца слабая падкантрольнасць дзяржаве.

Адсюль — Дзермант ды дзерманты меншага калібру. Адсюль рашучая адмова аналізаваць сацыяльную рэальнасць. Навошта напружвацца, калі ўсялякую актыўнасць народных масаў можна растлумачыць мэтанакіраванай працай міжнародных каманд прафесіяналаў. Галоўнае, каб піпл пагадзіўся гэта спажываць.

### Загадка пра ялінку

Але сучасны піпл, у адрозненне ад свайго архаічнага папярэдніка, не такі маналітны, як таго хацелася б лялькаводам мясцовага разліву. Звернемся да апытання, праведзенага ў лістападзе-снежні Цэнтрам усходніх даследаванняў (Польшча). Пазітыўна і хутчэй пазітыўна ацанілі адзінага палітыка (АП) 27,2% і 13,6% (40,8%), негатыўна і хутчэй негатыўна — 33,4% і 12,3% (45,7%).

Пры такіх суадносінах цяжка прэтэндаваць на падтрымку 6 мільёнаў, асабліва калі ўлічыць, што агульная колькасць выбаршчыкаў у Беларусі складае 6,9 мільёна. Аднак не варта забываць пра дапамогу з боку спецыялістаў па матэматычным мадэляванні. Такія ёсць і ў родным ЦВК. Але ім для гэтага мець дыплом матэматычнага факультэта БДУ не абавязкова.

Нішто так не характарызуе беларускую стабільнасць, як узровень электаральнай падтрымкі АП, зафіксаваны ЦВК пад кіраўніцтвам Лідзіі Ярмошынай: 2020 г. — 80,1%, 2015 г. — 83,47%, 2010 г. — 79,65%, 2006 г. — 82,96%, 2001 г. — 75,65%. У 1994 годзе, гэта значыць у электаральную эру без Ярмошынай, будучага трыумфатара ў першым туры падтрымалі толькі 44,82% выбаршчыкаў (і 80,34% ад тых, хто прагаласаваў, — у другім).

Тут напрошваецца аналогія з дзіцячай загадкай пра ялінку, чый колер ад пары года не залежыць. Усё роўна, ці растуць рэальныя даходы беларусаў (2006) ці зніжаюцца (2015), на ўзроўні электаральнай падтрымкі гэта ніяк не адбіваецца. Што ўжо тады казаць пра такія тонкасці, як структура занятасці насельніцтва. У 2000 годзе ў сельскай гаспадарцы, напрыклад, працавала 15,2% ад эканамічна актыўнага насельніцтва, у той час як у 2019 годзе — 8,7%.

### Чакаем

Але якія б лічбы ні дэманстраваў ЦВК, цалкам ігнараваць сучаснасць не атрымліваецца. Адсюль — павышэнне ўвагі да моладзі. Паколькі ў нас адсутнічае ўласнабеларуская сацыялогія, прывядзем аналагічныя расійскія лічбы: 66% «пратэстуноў», якія адгукнуліся на заклік Навальнага, — людзі да 35 гадоў. «Таму што менавіта гэтыя катэгорыі, — тлумачыць дырэктар Левада-цэнтра сацыёлаг Леў Гудкоў, — сядзяць у сацыяльных сетках. Яны таксама глядзяць тэлевізар, але значна менш, па-іншаму. Якраз не тыя праграмы, не прапагандысцкія праграмы. Таму ў іх іншыя каналы інфармацыі, іншыя інтэрпрэтацыі, іншыя пункты гледжання. Адпаведна, разнастайнасць інтэрпрэтацый».

Сваімі страхамі перад сацыяльнымі сеткамі АП падзяліўся са студэнтамі БДУ 29 студзеня: «...той, хто спарадзіў гэтага змея і выпусціў з бутэлькі, той і павінен гэты працэс (цэнзуры ў інтэрнэце. — **С.Н.**) пачынаць. Мы наогул гэта зрабіць не зможам. Калі мы закрыем адзін кірунак, у нас вылезе ў іншым».

АП рэдка публічна прызнаецца ва ўласным бяссіллі. Адзінае тлумачэнне — маштаб праблемы, якая даўно перасягнула межы рэспублікі-партызанкі: «Дзякуючы сацыяльным сеткам і месенджарам, мы можам цяпер спарадзіць планетарную рэвалюцыю. Вы бачыце, што сёння ва ўсіх краінах адбываюцца падобныя падзеі, якія кіруюцца праз гэтыя сеткі і не з месца. Як у нас было: усё кіравалася з тэрыторыі Польшчы і Літвы. Таму так, мы на парозе прыняцця гэтых рашэнняў. Але яны павінны зыходзіць ад моцных гэтага свету».

Чакаем. Моцныя гэтага свету, адгукніцеся! У нас на парозе — планетарная рэвалюцыя! І не істотна, што ў Беларусі ліміт рэвалюцый вычарпаны. Донар еўрапейскай стабільнасці — не гумовы. І яго магчымасці эвалюцыянаваць у ганарлівай адзіноце надзвычай абмежаваныя.

# На адны і тыя ж граблі

## З «лістом у МАП» ФПБ можа моцна падставіцца

Сяргей ПУЛЬША

**Адкрыты ліст праўладнай Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі да Міжнароднай арганізацыі працы, удзельнікаў міжнароднага прафсаюзнага руху, рабочых і наймальнікаў іншых краін з нагоды еўрапейскіх санкцый, па словах лідара ФПБ Міхаіла Арды, падпісала больш за мільён чалавек. Як збіраліся гэтыя подпісы — іншая справа. А ў выніку яго з'яўлення ФПБ яшчэ раз паказала — яна не займалася і не займаецца абаронай правоў працоўных. Інакш бы такога ліста ўвогуле не было б.**




Фота НЧ

### «Будзем хадзіць п'яныя і дурныя»

Афіцыйныя прафсаюзы ў сваім лісце заявілі, што «Еўрапейскім саюзам неабгрунтавана, без якіх-небудзь пацвярджэнняў, уведзеныя санкцыі ў дачыненні да прадпрыемстваў нашай краіны. Закрануты інтарэсы дзясяткаў тысяч людзей, у першую чаргу працоўных. Увядзенне эканамічных санкцый у дачыненні да беларускіх прадпрыемстваў не з'яўляецца выказваннем патрабаванняў працоўных».

Афіцыйныя прафсаюзы таксама закранаюць у лісце пытанні аплаты працы. «Еўрапейскія палітыкі, мабыць, лічаць, што яны маюць права абмяжоўваць і ўшчамляць правы работнікаў іншых краін. Выходзіць, мы павінны застацца без працы, без заработнай платы. Як у такім выпадку нам утрымліваць свае сем'і, вучыць дзяцей? Акрамя таго, санкцыі накіраваны на скарачэнне паступленняў у бюджэт. У выніку мы можам застацца без пенсій, дапамог, адукацыі і аховы здароўя, якія ў нашай краіне фінансуюцца з бюджэту».

Пры гэтым незразумела, чаго ж хочуць падпісанты гэтага ліста. Напрыканцы яго кажацца: «Заклікаем працоўных іншых дзяржаў праявіць салідарнасць і аказаць уплыў на ўрады сваіх краін, якія, ужыўшы эканамічныя санкцыі, фактычна заняліся эканамічным шантажом і парушылі асновы міжнароднага права».

Карацей, паводле праўладных прафсаюзаў, з-за санкцый ЕС у нас настане поўны калапс, і мы, як казаў калісьці той жа Лукашэнка, «будзем хадзіць п'яныя і дурныя».

Ці так яно на самай справе?

### Хто застанецца без заробку?

Відавочна, што ліст ФПБ узнік не проста так. Канешне, на санкцыі ЕС трэба было адказаць «народным гневам». Аднак не выключана і тое, што за стварэнне такога ліста нехта атрымаў добранькі «адкат» ва ўласную кішэню.

Справа ў тым, што працоўных абавязваюць падпісвацца, фактычна, за чужыя інтарэсы. Фірмы, якія трапілі пад эканамічныя санкцыі ЕС, аніяк не звязаныя з даходамі беларусаў, выплатай заробкаў, падаткаў, пенсій і гэтак далей.

Канешне, у спісе фігуруюць некалькі буйных прадпрыемстваў. Гэта ААТ «140 рамонтны завод», ААТ «Агат — электрамеханічны завод», ААТ «МЗКЦ» і ЗАТ "Белтэхэкспарт" — гэтыя прадпрыемствы належаць да ваенна-прамысловага комплексу. І ў той час, калі Лукашэнка абвінавачвае Захад і падступнае NATO ва ўсіх грахах — ад «лялькаводніцтва» да «развязання вайны ў Беларусі», па вялікім рахунку, гэтыя прадпрыемствы самі павінны былі скасаваць кантракты з Захадам. Бо дзіўна атрымліваецца: з аднаго боку, нашы ўладары бэсцяць «агрэсіўны Захад», а з іншага — карыстаючыся выслоўем «грошы не пахнуць», прадаюць нашаму праціўніку калі не зброю, дык яе кампаненты. Ці, можа, нехта там, наверсе, «здрадзіў Радзіме»?

ЕС проста прывёў сітуацыю ў адпаведнасць са словамі пакуль што кіраўніка краіны. Калі Захад нам «вораг» — чаму мы прадаём зброю «ворагу»? У ФПБ варта было б задумацца пра гэта. А таксама пра тое, хто абвясціў Захад нашым ворагам.

Астатнія тры фірмы — гэта забудоўшчык Dana Holdings, кампанія-распрацоўшчык праграмнага забеспячэння па распазнанні асоб ТАА «Сінезіс» і Упраўленне справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Віктара Шэймана. Па вялікім рахунку, ніводная з іх (уключаючы прадпрыемствы ВПК) не з'яўляецца «дзяржавастваральнай». Гэта не «Беларуськалій», не нафтаперапрацоўка, не «Гродна-Азот», не сельская гаспадарка, не вытворчасць гарэлкі, урэшце. Гэта вузкапрофільныя і спецыялізаваныя прадпрыемствы, грошы ад якіх сапраўды асядаюць не столькі ў бюджэце краіны, колькі ў розных «рэзервовых фондах прэзідэнта» і, мажліва, на афшорных рахунках. А Dana Holdings — і ўвогуле сербская фірма, што пад пратэкцыяй сённяшняга кіраўніцтва Беларусі проста зарабляе на нас грошы.

У любым выпадку, «застацца без заробку», як пра гэта піша ФПБ, ні ў каго не выпадае. Таму што заробак чалавек зарабляе сам. Яго не Лукашэнка выдае, і не ЕС адбірае.

### Паблыталі берагі

Але ліст ФПБ проста павінен быў з'явіцца, каб мы ў чарговы раз пераканаліся, што такое ёсць у нашай краіне «афіцыйныя прафсаюзы». Па факце, Федэрацыя прафсаюзаў — арганізацыя, якая павінна абараняць правы ў першую чаргу працоўных, — сабрала мільён подпісаў у падтрымку не працоўных, а наймальнікаў.

Па вялікім рахунку, санкцыі ЕС тычацца менавіта наймальнікаў, а не працоўных. Узяць той жа МЗКЦ — ён трапіў у санкцыйны спіс таму, што з прадпрыемства па палітычных матывах звальнялі рабочых. ФПБ ніяк не абараніла правы працоўных. А цяпер выступіла з адкрытым лістом наконт абароны прадпрыемства. То-бок, фактычна Федэрацыя абараняе наймальніка ад санкцый, якія сталі наступствам парушэння правоў работнікаў.

Гэта, напэўна, не тое, чым павінен займацца класічны прафсаюз, які найперш абараняе правы працоўных, ці не так? А значыць, альбо ФПБ займаецца не тым, чым трэба, альбо ёсць не тое, за што сябе выдае. То-бок, не прафсаюз.

### Паблыталі адрасы

Што яшчэ дзіўна: ФПБ накіроўвае свой «ліст пратэсту» ў Міжнародную арганізацыю працы. Між тым, санкцыі ў дачыненні да «гаманцоў Лукашэнкі» ўвёў Еўрапейскі саюз. Наколькі МАП мае ўплыў на ЕС, і ці можа арганізацыя працоўных, хай і сусветная, прымусіць адміністрацыю Еўрасаюза адмовіцца ад санкцый?

Лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук, які ўжо не адно дзесяцігоддзе супрацоўнічае з МАП, зазначае, што ФПБ сапраўды сур'ёзна паблытала адрасатаў свайго ліста. «Міжнародная арганізацыя працы абсалютна не датычная да тых рашэнняў, што прымае ЕС, гэта, напэўна вядома нават першакурсніку факультэта міжнародных адносінаў БДУ. Я ўжо прыводзіў аналогію, што скардзіцца ў МАП на ЕС — гэта, па выразе Уладзіміра Высоцкага, "пісаць у Спортлато"», — кажа Ярашук.

А ўся гэтая сітуацыя ўвогуле ўзнікла з-за таго, што, напэўна, ФПБ мерае ўсю прафсаюзную супольнасць па сваіх лякалах. «ФПБ у нас — адна са структураў улады, будзем называць рэчы сваімі імёнамі», — зазначае Ярашук. А паколькі ФПБ — структура ўлады, то там думаюць, што і Міжнародная арганізацыя працы — такая ж «структура ўлады», якая можа паддацца жалю і закінуць слова перад палітыкамі ў ЕС. Але гэта — зусім не так.

Насамрэч, Ярашук называе ліст ФПБ «прымітыўным піярам» і спробай выправіць крывое дрэва. «Гэта марная справа, таму што ў МАП выдатна ведаюць пра сітуацыю з правамі працоўных і прафсаюзаў у Беларусі. Ужо каля 20 гадоў МАП кожны год на штогадовай канферэнцыі працы разглядае сярод іншых "беларускае пытанне" — як краіну з адной з найгоршых у свеце сітуацыяй з правамі працоўных. І кожны год ФПБ выступае на баку ўлады», — зазначае Ярашук.

### Чарговы «стрэл у нагу»?

У гэтым выпадку, на думку прафсаюзнага лідара, ФПБ і ўлады са сваім адкрытым лістом у чарговы раз стрэлілі сабе ў нагу. І ў прынцыпе, у іх інтарэсах было б, каб гэты ліст да МАП не трапіў увогуле. Бо былі прэцэдэнты.

«Аналагічная сітуацыя была ў 2007 годзе — успамінае Ярашук. — Тады стаяла пытанне пра тое, ці пазбаўляць Беларусь гандлёвых прэферэнцый з Еўрасаюзам. Напярэдадні штогадовай канферэнцыі працы Еўрасаюз прыняў рашэнне пазбавіць Беларусь гандлёвых прэферэнцый за сістэматычнае парушэнне правоў працоўных. Але гэтае рашэнне ЕС не набыло моц — яно павінна было пачаць дзеянне толькі пасля таго, як МАП яшчэ раз разгледзіць сітуацыю з правамі працоўных у нашай краіне. ФПБ ж у асобе яе тагачаснага кіраўніка Козіка пачала пісаць лісты супраць пазбаўлення Беларусі гандлёвых прэферэнцый. Аднак тады яны пайшлі яшчэ далей — Козік папросту сфальсіфікаваў подпісы пад гэтымі лістамі расійскіх і украінскіх прафсаюзаў».

Тыя лісты, як і цяперашні, не мелі аніякага значэння, але, калі на той самай штогадовай канферэнцыі працы адкрылася фальсіфікацыя, быў аграмадны скандал. І Беларусь пазбавілася гандлёвых прэферэнцый ці не ў аўтаматычным рэжыме. «Толькі дзве краіны за ўвесь час існавання гэтых прэферэнцый, з 1971 года, былі іх пазбаўленыя — гэта М'янма і Беларусь», — зазначае Ярашук.

І той скандал з фальсіфікацыяй подпісаў толькі дадаў цікавасці міжнароднай працоўнай супольнасці да парушэння правоў працоўных у Беларусі.

«Сёння нічога новага ФПБ не адкрыла, яна ў чарговы раз наступае на адны і тыя ж граблі», — кажа прафсаюзны дзеяч. Ліст ФПБ можа толькі чарговым разам звярнуць увагу МАП на тое, наколькі дрэнная ў Беларусі сітуацыя з правамі прафсаюзаў і працоўных, і чарговым разам падае сігнал, што ФПБ — ніякі не прафсаюз, а праўладная арганізацыя.

Таму «калектыўны ліст», на думку Ярашука, не толькі ніяк не паўплывае на рашэнне ЕС адносна санкцый, але яшчэ больш пагоршыць сітуацыю як для ФПБ, так і ўлады ва ўсім, што тычыцца ацэнкі МАП сітуацыі з правамі працоўных у Беларусі.

Асабліва, калі ў МАП даведаюцца, якім чынам збіраліся подпісы пад адкрытым лістом. А тое, што яны даведаюцца, — гэта сумневаў не выклікае. Бо ў век інтэрнэту знайсці ролікі пра «прымусовую падпіску» таго ліста — гэта проста зайсці ў Google.

**Калектыўны ліст, на думку Ярашука, не толькі ніяк не паўплывае на рашэнне ЕС адносна санкцый, але яшчэ больш пагоршыць сітуацыю як для ФПБ, так і ўлады ва ўсім, што тычыцца ацэнкі МАП сітуацыі з правамі працоўных у Беларусі**

5 лютага 2021 | № 5 (713) Новы Час

# «Гумар дае сілы перажыць усё»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Людміла Паўлоўская працуе медсястрой. Палітыка заўсёды была для яе другаснай, у адрозненне ад любові да радзімы. Аднак сёлета патрыятызм сутыкнуўся з палітыкай, і Людміла не змагла застацца абыякавай у сітуацыі, калі зневажаюць тое, што ёй баліць. У выніку трапіла пад шматлікія затрыманні і агулам адседзела 40 сутак арышту, а падчас апошняга затрымання ў яе здарыўся прыступ эпілепсіі.**

### «Бачыла шмат крыві на падлозе і сценах»

Першы раз Людмілу затрымалі 19 чэрвеня. У той дзень у Мінску людзі стаялі ў ланцугах салідарнасці з затрыманымі напярэдадні Віктарам і Эдуардам Бабарыкамі.

— Я ішла з працы, усе бліжэйшыя станцыі метро былі закрытыя. Убачыла хлопца, якога цягнулі ў аўтазак. У мяне спрацавала жаданне справядлівасці, і я пачала крычаць: «Што вы робіце?» Ну і мяне пацягнулі таксама. Затрымалі мяне каля цырка, а ў пратаколе напісалі, што я ўдзельнічала ў акцыі і была затрыманая на плошчы Якуба Коласа, хаця я там не была, — узгадвае жанчына.

Ноч Людміла правяла ў РУУСе, а раніцай яе адпусцілі. У тыя дні сілавікі яшчэ не паводзілі сябе так жорстка, як пасля выбараў, таму ўсё праходзіла досыць спакойна. Праз некаторы час адбыўся суд, на якім Людмілу прызналі вінаватай і прысудзілі 400 рублёў штрафу.

Увечары 9 жніўня Людміла прыйшла да бліжэйшага да свайго дому выбарчага ўчастка, каб паглядзець, што там адбываецца. Як і паўсюль, на ўчастак не пускалі незалежных назіральнікаў, але позна ўвечары камісія абвясціла папярэднія вынікі галасавання, паводле якіх перамагла Святлана Ціханоўская.

— Усе сталі абдымацца, гучалі апладысменты. Мы думалі пайсці ў цэнтр святкаваць, але калі рушылі, нам сталі казаць, каб не хадзілі, бо там страшна. Мы дайшлі да плошчы Мяснікова, і вырашылі далей не ісці, бо нам сталі сустракацца сілавікі, людзі былі напалоханыя.

Але спаць у тую ноч Людміла амаль не магла. Увечары 10 жніўня яна выйшла на вуліцу.

— У мяне іншага варыянта не было, бо мне гэта баліць. Калі я не выйду, я проста буду сядзець дома і пра гэта думаць, і потым усё роўна пайду. Самая важная прычына — гэта людзі. Калі мы даведаліся пра смерці людзей, якія побач, я разумела, што была ў гэтых месцах, і замест гэтых людзей магла быць я ці нехта з маіх родных, — гэта страшна.

У той вечар Людміла аказалася каля Рыгі, дзе адбываліся гарачыя падзеі, будаваліся барыкады. Калі ўсё ўжо амаль скончылася, жанчына вырашыла ісці дадому. Ні транспарт, ні таксі тады не хадзілі, і яна рушыла пешшу. Па дарозе ўбачыла, як у кустах сілавікі б'юць чалавека.

— Іх было чалавек сем дакладна. Дубасілі так, што ён там роў дзікім ровам. Я думаю, што ў гэты момант кожны б зрэагаваў. Я закрычала: «Што вы робіце? Вы ж яго заб'еце!» І мяне затрымалі. Гэта было самае страшнае затрыманне ў маім жыцці. Сілавікі былі вельмі ўзбуджаныя, неадэкватныя. Яны мяне зацягнулі ў аўтазак, паклалі на падлогу, чамусьці вылілі на мяне ваду з бутэлькі — не ведаю, навошта. Але не білі, проста смяяліся з мяне. Пачалі здзекавацца і запытваць: «Куды ты засунула свае 20 долараў?» Потым сталі падносіць хлапцоў, білі іх, крычалі некаму, што засунуць у рот тэлефон, цягалі за валасы і бароды, надзявалі на рукі і ногі сцяжкі. Сілавікі сядзелі, паставіўшы на нас ногі, а калі трэба было выбегчы за наступнай ахвярай, выбягалі прама па нас. Быццам не заўважалі, што мы пад іх нагамі. Разоў пяць перасаджвалі нас з аўтазакаў у аўтобусы, і я бачыла там шмат крыві на падлозе і на сценах. Калі я вярнулася дадому, маё адзенне было ў крыві, чужой.



Фота Яны Трусіла

Прывезлі ў РУУС, дзе пратрымалі да 12 гадзін наступнага дня, склалі пратакол. Затрыманых хлопцаў павезлі ў Жодзіна, а Людмілу адпусцілі. Потым адбыўся суд, але праз няправільна складзены пратакол справу адправілі на дапрацоўку, дзе яна і знікла ў архівах.

### Суд у пакоі для сартавання бялізны

Але гэтае затрыманне не стала для Людмілы апошнім. Пасля маршу 6 верасня яна ішла па набярэжнай Свіслачы. Побач ішлі нейкія дзяўчаты, якія не вельмі добра пажартавалі на адрас мужчын, што ішлі наперадзе. Суразмоўца мяркуе, што гэта былі супрацоўнікі ГУБАЗіКа.

— Тыя азірнуліся і ўбачылі мяне, я была ў нацыянальным касцюме — у спадніцы і кашулі. І так атрымалася, што мяне ўзялі.

Люду закінулі ў аўтазак, ноч яна правяла ў РУУСе, а пасля яе завезлі на тры дні ў Жодзіна, дзе і адбываўся суд.

— Я была ў нейкім жудасным старым корпусе, брудным і без рамонту. Тры дні я фактычна праляжала. Мне было вельмі дрэнна, я была адна ў камеры.

Пратакол на жанчыну зноў склалі з памылкай, і зноў адправілі яго на дапрацоўку, дзе ён і знік.

У адну з субот Людміла гуляла па праспекце з кветкамі. На плошчы Перамогі яна зрабіла фотаздымак са сцягам і сышла. Па дарозе да яе пад'ехалі амапаўцы і затрымалі.

— У мяне забралі тэлефон, выцягнулі адтуль гэты фотаздымак, які потым далучылі да справы, і напісалі, што я зладзіла «аднаасобны пікет — масавае мерапрыемства». Гэта нешта накшталт штаноў, якія выказваюць грамадзянскую пазіцыю, — іранізуе суразмоўца.

Суд праходзіў на Акрэсціна ў пакоі для сартавання бруднай і чыстай бялізны.

— Я сядзела за сталом, перада мной быў вялікі стос бялізны і стаяў ноўтбук, а ззаду было двое дзвярэй: адны вялі ў пакой з бруднай бялізнай, другія — з чыстай. І ззаду пастаянна хадзіла жанчына. Я сядзела і думала: вось яна, беларуская судовая сістэма. Гэта было вельмі сімвалічна.

Гэтым разам Людміле прысудзілі 12 сутак арышту. Яна ўзгадвае, што не моцна перажывала з нагоды прысуду, адзінае,

# «Мама, я выйду з турмы з высока

**Аксана Агурчыкава — мама Анастасіі Булыбенка, адной з тых 20 студэнтаў, якія былі затрыманыя падчас пратэстаў і абвінавачаныя ў крымінальным злачынстве. Насцю трымаюць у СІЗА.**



— У нас вялікая сям'я: я, котка і Ася, і яшчэ вельмі шмат невырагодных і сардэчных людзей,— расказвае Аксана Агурчыкава. — Ва ўсе часы мы былі з Насцяй рука аб руку, моцна. Яна заўсёды была выдатніца, актывістка, скончыла мастацкую школу, у канцэртах удзельнічала, паэзію Срэбнага веку любіць... Дыялог у нашай сям'і ў прыярытэце, Насця ўмее аргументаваць і тлумачыць сваю пазіцыю, мы ўсё абмяркоўвалі. Ураўнаважаны, думаючы чалавек. Сонейка маё.

Мы жылі ў Магілёве, у мяне быў свой бізнес 12 з паловай гадоў — крама касметыкі ручной работы. Тры гады таму, калі Насця вырашыла, што будзе атрымліваць вышэйшую адукацыю ў сталіцы, я закрыла бізнес і мы пераехалі ў Мінск. Мне хацелася быць побач з ёй, каб яна ведала, што ёсць цёплы дом, ёсць месца, дзе яе заўсёды чакаюць, такая бяспечная гавань. Знялі там кватэру. Насця паступіла ў БНТУ, на машынабудаўнічы факультэт, на бюджэт.

9 жніўня ў Насці былі першыя ў жыцці выбары. Яна вельмі чакала іх. Паколькі ў яе месца прапіскі Магілёў, яна паехала туды спецыяльна, каб прагаласаваць. Увечары 9-га не змагла вярнуцца: маршрутнікі адмаўляліся ехаць у Мінск, горад быў закрыты — вярнулася на наступны дзень. Першае затрыманне было на «бліскучым» жаночым маршы 19 верасня. Тады пратакол не склалі, але пазней даслалі ліст, што выйшаў тэрмін для прыцягнення да адказнасці.

17 кастрычніка на маршы студэнтаў зноў была затрыманая, пазначылі фарбай не толькі спіну, але нават твар, хоць забралі на лаўцы з распухлай нагой. Я шукала яе шэсць гадзін, паспела перадаць цёплыя рэчы, і Аська крыкнула перад пагрузкай у аўтазак: «Мама, я люблю цябе!» Суд Партызанскага раёна прысудзіў 10 сутак.

На наступны дзень пасля вызвалення выйшла на вучобу, а 3 лістапада ёй уручылі загад аб адлічэнні задняй датай на падставе пропускаў за гэтыя 10 сутак. У лістападзе пры ператрусе ўзялі пад арышт паводле крымінальнага артыкула, а пазаўчора стала вядома, што працягнулі тэрмін затрымання яшчэ на 2 месяцы. Да 12 сакавіка...

Пасля сутак у кастрычніку Ася выйшла ў вельмі дрэнным стане. У яе псарыяз, ён вельмі абвастрыўся ў сувязі з гэтымі падзеямі. Вы ж ведаеце, як гэта ў «скурнікаў» усё абвастраецца... Былі жудасныя ўмовы зняволення: яна сядзела на Акрэсціна і ў Баранавічах. І хоць дзяўчаты ў камеры рабілі ўсё, каб ёй дапамагчы: размяркавалі абавязкі, каб Насці не прыйшлося нічога мыць вадой, дзяліліся сродкамі гігіены, — рукі запаліліся настолькі, што яна не магла разагнуць пальцаў, скура трэскалася да крыві. Насця не мылася 10 дзён, на Акрэсціна галадалі практычна, што ўжо казаць пра дыету, рэкамендаваную хворым на псарыяз... Дыеты не было. Добра, што іншыя зняволеныя дзяўчаты дзяліліся з Насцяй прадуктамі, сурвэткамі, рэчамі. Толькі праз 4 дні, калі яна ўжо трапіла ў Баранавічы, я змагла перадаць прадукты і лекі.

Пасля адлічэння мы спрабавалі шпіталізаваць яе, але з-за кавіду не паспелі, пачалі лячэнне дома.

Насця цяжка аднаўлялася, казала мне: «Мама, я чую ляскание турэмных дзвярэй, лаўлю флэшбэкі, так баюся прачнуцца ў камеры». Перастала есці і спаць. Стан быў такім нядобрым... 12 лістапада, у той «чорны» чацвер, я паехала на працу, і ў раёне абеду пачалі тэлефанаваць дзеці... Сябры Насці, у тым ліку студэнты БНТУ.

І вось яны кажуць, што не могуць выйсці з ёй на сувязь. Я спачатку думала, што яна спіць. Супакойвала іх. Не, кажуць, тэлефон адключаны, а гэтага не

хвалявалася, што падводзіць калег на працы ды прымушае непакоіцца блізкіх. Пакаранне Людміла адбывала спачатку на Акрэсціна, куды ёй нават паспелі прынесці перадачу, а потым у Жодзіна.

— Сядзець давялося з цікавымі разумнымі людзьмі. Мы гулялі, чыталі, размаўлялі. Калі ніхто цябе не чапае, арганізм мабілізуецца і знаходзіць у сабе сілы ўсё перанесці, таму 12 сутак прайшлі спакойна.

Але па-за сценамі ізалятара спакою не было. Калі Людміла выйшла, у той жа вечар памёр Раман Бандарэнка.

— Усё было прасякнута гэтай тэмай, ва ўсіх быў дрэнны настрой. А я выйшла спакойная, нават вясёлая, і не магла зразумець, што здарылася. Як бомба на галаву звалілася гэтая навіна.

### 25 сутак за рукавічкі

Пасля гэтага пажыць у больш-менш спакойным рэжыме ў Людмілы атрымалася крыху больш за месяц. 20 снежня яна ішла па вуліцы Харкаўскай, людзей побач не было. Раптам нібыта з ніадкуль з'явіўся звычайны пасажырскі аўтобус і спыніўся побач. Адтуль выбеглі некалькі дзясяткаў сілавікоў у зялёнай форме і са шчытамі.

— Яны выгрузіліся, нібыта не разумеючы, што ім рабіць, паглядзелі па баках, убачылі мяне і пабеглі ў мой бок. Сказалі: «Зараз мы паглядзім запісы і адпусцім вас». Што там у іх былі за запісы, я не ведаю. Мяне завялі ў аўтобус, і ўнутры мне стала дрэнна. Тое, як яны абыходзіліся, мяне вельмі прыніжала. У мяне быў такі стан — нешта памятаю, нешта не памятаю. Мяне пачалі выцягваць з аўтобуса і зацягваць у аўтазак. А я не магла ісці, таму мяне проста сталі цягнуць па лесвіцы. Спрабавалі мяне ўсадзіць, а я аб'язджала. Яны сталі крычаць, што я наркаманка і абдзяўбаная. Сталі глядзець на мае зрэнкі — «Паглядзіце, яна ж на дозе!»

Потым амапаўцы, відаць, зразумелі, што адбываецца нешта не тое. Спрабавалі прывесці Людмілу ў пачуцці нашатырам, але не атрымлівалася. Тады выклікалі хуткую. Але тым часам затрыманая апрытомнела, і хуткую адмянілі.

— Павялі ў РУУС, пачынаюць у мяне нешта пытацца, а я не магу адказаць. Тады сталі крычаць: «Ты глуханямая?» А я спрабую нешта сказаць, але не магу. Адзін такі «красавец», я так разумею, начальнік змены, пачаў мяне дражніць і казаць, што ў мяне аргазм. А яго падначаленыя сядзяць і смяюцца.

Неўзабаве Людміла крыху акрыяла. Цяпер яна ўзгадвае, што РУУС быў для яе самым непрыемным месцам. Пасля яго жанчыну павезлі ў ізалятар на Акрэсціна, дзе адбываўся суд. Людмілу абвінавацілі ва ўдзеле ў мітынгу ў іншым месцы, яна нібыта ішла са сцягам і выкрыквала лозунгі.

— Мой сведка быў у балаклаве, а экран камп'ютара ў яго быў вышэй за ўзровень вачэй, я бачыла, фактычна, толькі лоб і столь. Я спытала ў яго, ува што была апранутая. Ён адказаў: «У бчб-рукавічках». А мае бчб-рукавічкі былі ў мяне ў сумцы, а не на руках. Яны былі проста ў вопісе рэчаў.

Відаць, за гэтыя рукавічкі суддзя ўляпіла Людміле рэкордны тэрмін — 25 сутак арышту.

### «3 масак зрабілі елачку»

Спачатку Людміла плакала, а потым прыйшла ў сябе, бо ў зняволенні трэба падтрымліваць адно аднаго. Пасля двух сутак на Акрэсціна яе перавялі ў Жодзіна, гэтым разам родныя не паспелі зрабіць ёй перадачу.

Суразмоўца распавядае, што дзяўчаты прыдумлялі шмат «лайфхакаў» для паляпшэння жыллёвых умоў. Дзвярэй у прыбіральню не было, таму сукамерніцы спплялі ланцужок, на які павесілі прасціну. Грэлі ваду на батарэі, надзявалі цэлафанавыя пакеты на ногі пры паходзе ў душ, дзяліліся адна з адной рэчамі і ежай з перадач.

Святы Людміле таксама давялося сустракаць у турме. Яна — каталічка, і Каляды 25 снежня для яе прайшлі складана: яна прывыкла сустракаць гэтае свята з сям'ёй. Затое сустрэча Новага года была незабыўнай.

— 3 масак для твару зрабілі елачку, а замест шампанскага ў нас былі шыпучыя вітамінкі. Хлопцы ў суседніх камерах пачалі крычаць «Саша, ты звольнены!» і «Сыходзь!», спявалі песні — гэта так аб'ядноўвала. А яшчэ блізка-блізка пачалі пускаць салюты. Было крута, — узгадвае яна.

А 1 і 7 студзеня Людміле аддалі некаторыя лісты і паштоўкі, якія ёй дасылалі сябры — відаць, прытрымлівалі да святаў.

Яшчэ да яе ў камеру прыходзіў супрацоўнік крымінальнага вышуку, але размаўляць з ім Людміла адмовілася, бо ён не патлумачыў, на якой падставе гэтая гаворка і чаму яна адбываецца без адваката.

Тыя 40 дзён, якія агулам Людміла Паўлоўская правяла за кратамі, яна не лічыць выкінутымі з жыцця, бо сустрэла шмат цікавых людзей, шмат пра што задумалася.

— Нават у бытавым сэнсе: я вырашыла, што буду асобна збіраць смецце. І ў кожнай сферы я даведалася пра нешта новае. А яшчэ нават мая мама сказала, што калі б затрымалі не мяне, то каго-небудзь іншага. То-бок гэта такая вымушаная мера, якую беларусы павінны прайсці.

Асобна Людміла гаворыць пра салідарнасць, якая была літаральна паўсюль.

— Узгадваю пра пакет агульных рэчаў, дзе можна было нешта ўзяць, а нешта пакінуць. Ці як яшчэ на Акрэсціна, стоячы ля сцяны, дзялілі патрапаную кнігу, каб было хоць па два дні што пачытаць. Лісты і паштоўкі — увогуле асобная тэма. І, канешне, па вяртанні родныя, сябры і проста незнаёмыя людзі прапанавалі дапамогу, у тым ліку і матэрыяльную. Я ўдзячна ўсім!

### «Гумар дае сілы перажыць усё!»

Мы папрасілі Людмілу даць некалькі парадаў тым, хто яшчэ не быў арыштаваны, каб, у выпадку чаго, перанесці зняволенне лягчэй.

— Шмат хто кажа, што ўяўляе гэта як квэст, тады лягчэй успрымаць. Тут важныя ўзаемадапамога, саступкі, проста добрыя словы. Ты робіш нейкую дробязь, нехта дапамагае табе — вы аб'яднаныя адной мэтай, вы становіцеся блізкімі. І так прывыкаеш да людзей, што, калі выходзіш з сутак, здаецца, пакідаеш сям'ю. І гумар — ён дае сілы перажыць усё! А яшчэ — там файна заходзіць Горват, шмат хто казаў.

Родным, сябрам магу сказаць па сваім вопыце. На дзіва, тым, хто за кратамі, лягчэй у нечым. Родныя ж хвалююцца, прыдумляюць сцэнары, бегаюць, вырашаюць пытанні. Таму галоўная парада родным — падтрымаць чалавека менавіта па вяртанні, бо тады становіцца цяжка. Так было ў мяне, але гэта мой асабісты погляд.

Людміла прызнаецца, што ў яе дасюль бываюць флэшбэкі. Яна ўсё яшчэ не можа размаўляць пра жнівеньскія падзеі спакойна. Калі нядаўна пачула расповед адной дзяўчыны пра 10 жніўня, узгадала свой вопыт, яе закалаціла і яна расплакалася. На міліцыянтаў глядзіць з асцярогай — адразу з'яўляецца пачуццё небяспекі, недавер.

### Цяпер бы не стала на калені перад АМАПам

Многія памятаюць, што ў 2017 годзе падчас разгону АМАПам акцыі на Дзень Волі перад сілавікамі на каленях стаяла жанчына. Гэта была Людміла Паўлоўская. Тады яе многія абвінавацілі ў паказушнасці. Але Людміла — чалавек вельмі сціплы і сарамеюца быць навідавоку. Яна вагалася, ці варта даваць гэтае інтэрв'ю, але вырашыла, што гэта будзе яе ўнёсак у агульную гісторыю рэпрэсій у Беларусі.

— Тады, магчыма, адчувалася больш безвыходнасці, не было такога духоўнага нацыянальнага ўздыму, як цяпер, — узгадвае суразмоўца падзеі амаль чатырохгадовай даўніны. — На той момант я рабіла гэта шчыра, і я не звярталася да АМАПу, я размаўляла з Богам, малілася. А цяпер я думаю, што я б гэтага не зрабіла. Магчыма, я б гэта зрабіла, стоячы ў касцёле, але не перад вачыма гэтых людзей. Магчыма, гэта няправільна, бо я ўсё роўна даю ім шанец і веру, што ў сілавікоў ёсць нешта людскае.

Людміла гаворыць, што яна — аптыміст па жыцці. І верыць, што вада камень точыць.

— Нават самыя маленькія дзеянні і словы ўплываюць на агульную сітуацыю. Як сказаў адзін разумны чалавек: трэба рабіць тое, да чаго дацягнецца рука. Цяпер разумееш, што мы, беларусы, не ведалі і не заўважалі адзін аднаго. Але, хоць і дарагой цаной, мы пабачылі побач сябра, суседа. Аказалася, адносіны людзей важнейшыя за любыя ўмоўнасці, любыя насаджаныя каштоўнасці. Ганаруся беларусамі!

# паднятай галавой»

магло быць: ён усю ноч быў на зарадцы.

Ехала дадому з трывогай, але дрэнныя думкі адганяла, хоць і разумела: дома бяда. Дзверы былі зачынены на ключ. З парога ўбачыла, што ўсё ў кватэры перавернута, няма чаравікаў дачкі, няма зубной шчоткі, на кухні недапіты чай... Я патэлефанавала 102, і нарад мне патлумачыў, што быўператрус і яе затрымаў КДБ. Асю разбудзілі не кава, а шэсць мужчын над яе ложкам, яна спала...

Вельмі далікатная, худзенькая «крышталькая» — так яе ахарактарызавала дзяўчына, з якой Ася пазнаёмілася ў аўтазаку і правяла «незабыўныя» 10 сутак арышту... Нягледзячы ні на што, яна заўсёды абараняла справядлівасць. Праўдарубец. Усёй сваёй маленькай істотай паўставала супраць несправядлівасці. І вось выбары... Апафеоз усяго, што немагчыма ні прыняць, ні зразумець, ні даравать. Ясна, што Ася не магла прамаўчаць. Яна сказала: «Мама, я не магу застацца ўбаку». І я яе зразумела. Бацькі заўсёды павінны паважаць выбар дзіцяці. Думаю, што яна трапіла ў поле зроку органаў у пачатку верасня, калі затрымалі студэнтку БНТУ Віку Гранкоўскую (яна збірала подпісы пад зваротам да рэктара наконт падаўжэння дыстанцыйнай адукацыі). Віку затрымалі, асудзілі на суткі — і гэта абурыла многіх. Насця са сцягам БНТУ ўстала перад уваходам у галоўны корпус за абарону правоў студэнтаў. Горда, без маскі, без ценю сумневу. Практычна праз пару хвілін двух хлопцаў затрымалі. Вось тады трапіла пад увагу рэктарата, дэканата, пачаліся выклікі, тлумачальныя. Насця аргументавана тлумачыла сваю пазіцыю, бывала, па дзве гадзіны доўжыліся гэтыя размовы. Яе папярэджвалі, што калі яна не перастане быць актыўнай, то ёй будзе дрэнна.

Такая пазіцыя адміністрацыі ўніверсітэта. Маўчыце, а то будзе дрэнна. Але мы ж не ў каменным веку жывём, калі схапіў дубінку — і пабег лупіць, заўсёды важна слухаць і чуць! Дзеці вераць, што трэба гаварыць, што кожны голас будзе пачуты... А тут такая велізарная несправядлівасць — дзеці не злачынцы, а сядзяць на сутках і ў СІЗА!

Многія кажуць, што яны ўжо паўналетнія і ніякія не дзеці, але я ў корані не згодная! Яны юныя і чыстыя, смелыя і моцныя дзеці, якім выпала жыць у такія няпростыя часы, але кожны з іх прыняў адказнасць за сваё рашэнне, свой выбар. Як паказалі апошнія месяцы, далёка не кожны дарослы здольны выбраць паміж тым, што правільна, і тым, што лёгка.

Маё дзіця ніколі ў жыцці не праводзіла Новы год па-за сям'ёй. 2021-ы Ася сустрэла ў турме.

Лісты прыходзяць рэдка, а ў апошнія два тыдні наогул нічога... Я магу нешта даведацца толькі праз адваката: як сябе адчувае, што ёй перадаць, каб парадаваць. Насцёна вялікая ласуха, лепшая дапамагайка — шакаладка або шакаладная пячэнька ў шакаладзе.

Асенька заўсёды пытаецца ў адваката: як мама, як трымаецца? Перадаю, што я не адна, мяне падтрымліваюць студэнты і велізарная колькасць іншых людзей! Прапануюць дапамогу, прыходзяць да мяне, перадаюць для Асі падарункі, паштоўкі, лісты, пасылаюць бандэрольки, імкнуцца парадаваць яе. Такі непасрэдны, дзіцячы клопат.

І на працы ў мяне каласальная падтрымка!

Я ведаю, што навіну аб падаўжэнні затрымання Ася прыняла вельмі годна, сказала, што была гатовая. Хоць як можна быць гатовым да такога?! Мяне, вядома, гэтая навіна размазала цалкам. Са мной працуе псіхолаг з таго моманту, як Насцю забралі. Мне дапамагаюць.

Ведаеце, калі яна адседзела 10 сутак, я ёй казала, што другі раз такое не перажыву, бо гэта так страшна. Я 4 суткі не ведала, дзе маё дзіця, яе не было ні ў адных спісах. Мы з іншымі бацькамі кідаліся: Жодзіна, Баранавічы... Выйшла Насця вельмі худая, рукі гэтыя ў трэшчынах... І калі цяпер забралі зноў, адзінае, што яе хвалявала, — як я гэта перажыву.

Я ў кожным лісце пішу, хто са мною побач, колькі неабыякавых людзей прапануюць і аказваюць дапамогу. Вось на працы ў мяне (я працую ў праектным бюро) — 160 супрацоўнікаў, і абсалютна кожны выказаў сваю падтрымку. Кожны! У лісце пра гэта напісала, і вось тады Ася адказала: «Мама, наша сям'я стала большай на 160 чалавек. З такой падтрымкай я ніколі не здамся і не зламаюся, выйду з турмы з высока паднятай галавой, і ты будзь моцнай».

У мяне быў дзень нараджэння 9 снежня, а дачка мне загадзя даслала ліст і строга наказала адкрыць менавіта ў дзень Х. Я вытрымала, адкрыла ў правільны дзень, а там: «Мама, ты падарыла мне жыццё, а я табе падару ўвесь свет. З днём нараджэння, мой герой!»

Нашы дзеці ведаюць і адчуваюць больш за нас, таму што яны іншыя, яны лепшыя за нас. Яны больш свабодныя. Яны смелыя, яны адкрытыя.

Заўсёды буду побач з Насцяй і ведаю, што яна ўсё робіць з чыстай душой, з добрым сэрцам і бясконцай павагай да людзей. «Мама, як ты мяне вучыла, я веру ў дабро і веру ў людзей. Выключэнні толькі падцвярджаюць правіла». І хай маё сонейка (яе многія называюць менавіта так) саграваe сэрцы. Трэба жыць па гонары, трэба жыць па сумленні, каб перад сабой не было сорамна...

Кожнае слова, фраза, учынак маюць вагу. Сіла пазітыўнай калектыўнай думкі і згуртаванасць выклікаюць гонар. Гэтая доблесць і гонар, смеласць і дабрыня — яны сілкуюць, яны проста запаўняюць паветра.

Адрас для ліставання:

220030, г. Мінск, вул. Валадарскага 2, СІЗА-1, кам. 82, Булыбенка Анастасіі Аляксандраўне.

Калі вы хочаце дапамагчы, вось нумар рахунка яе маці ў Прыёрбанку, які патрэбны ў АРІП: 3000081047907.

**Паводле «Нашай Нівы», Наталка Бабіна**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Прэзідэнт думае пра сабак

Падчас анлайн-пасяджэння з чальцамі ўрада Туркменістана віцэ-прэм'ер Эсенмурат Аразгельдыеў прадставіў Гурбангулы Бердымухамедаву дызайн медаля, які будуць уручаць алабаю — сабаку-пераможцу конкурсу прыгажосці. Гэта парода абвешчана нацыянальным сімвалам. Разам з медалём сабаку будзе прысуджаны тытул «Ýylyn turkmen edermen alabaýy» («Адважны алабай года»). Акрамя таго, Аразгельдыеў прадставіў гаранту варыянты дызайну пляцоўкі, на якой будзе праходзіць конкурс. Геніяльны Бердымухамедаў азнаёміўся з матэрыяламі і ўнёс свае карэктывы ў прадстаўленыя праекты пляцоўкі і медаля, паколькі, па яго словах, іх дызайн «павінен адпавядаць міжнародным стандартам». Чыноўніку таксама даручана «грунтоўна падрыхтавацца да ўрачыстых мерапрыемстваў, якія ўпершыню адбудуцца з нагоды святкавання Дня туркменскага алабая». Мяркуючы па ўсім, мерапрыемства будзе сумяшчацца з нацыянальным святам туркменскага скакуна, якое, па традыцыі, адзначаецца ў апошнюю нядзелю красавіка.

**Паводле туркменскай прэсы**

### УКРАІНА. Кава супраць галалёду

Львоў вядомы сваімі кавярнямі. Таму не дзіўна, што гарадскія ўлады Львова плануюць выкарыстаць кававую гушчу для барацьбы з галалёдам. Такую ініцыятыву прапанавала дарадчыца гарадскога галавы Ірына Оршак. «Ёсць шмат заўваг ад гараджан, што сумесь, якая выкарыстоўваецца цяпер, застаецца на веснавы і летні перыяды, і з ёй складана змагацца, а саляныя растворы з-за сваёй актыўнасці не зусім падыходзяць для ўладальнікаў хатніх жывел. Таму ўзнікла ідэя паспрабаваць змагацца з галалёдам кававай гушчай», — сказала Ірына Оршак. Па яе словах, такі спосаб выкарыстоўваюць у Вялікабрытаніі. Кававая гушча паглынае цяпло, за кошт чаго змагаецца з галалёдам. Для рэалізацыі незвычайнага плана муніцыпалітэт ужо знайшоў партнёра, якім стала сетка кавярняў. Яе кіраўніцтва пагадзілася даваць гэты рэсурс бясплатна. Пілотны праект вырашылі пачаць на тэрыторыі паркаў. Застаецца дадаць, што мясцовыя аматары жартаў адразу прапанавалі мэрыі выкарыстаць супраць галалёду смецце. Справа ў тым, што горад хранічна пакутуе ад праблемы вывазу смецця, якое стала негалоснай візітнай карткай Львова.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### АРГЕНЦІНА. Чые Мальвіны?

Выхад Вялікабрытаніі са складу ЕС выклікаў у Аргенціне энтузіязм наконт магчымай рэінтэграцыі Мальвінскага (паводле англійскай версіі, Фальклендскага) архіпелага. Нагадаем, што Вялікабрытанія захапіла астравы ў 1833 годзе і ўтрымала ў 1982-м, калі аргенцінцы арганізавалі дэсант. Новая хваля эйфарыі грунтуецца найперш на настроях жыхароў архіпелагу (у большасці сваёй, этнічных англічан). Яны адчуваюць, што ў Лондане ім здрадзілі, праігнараваўшы эканамічныя інтарэсы ў рамках Brexit. Перш за ўсё яны тычацца гандлю з краінамі ЕС, куды Мальвіны (Фальклэнды) раней свабодна імпартавалі каля 60 працэнтаў сваёй прадукцыі (галоўным чынам мяса). Цяпер фірмам-экспарцёрам на рынку ЕС давядзецца плаціць падатак — прыкладна 18 працэнтаў. І тое ў выпадку, калі Брусель пагодзіцца выдзеліць нейкую квоту. Як вынік, сярод жыхароў астравоў назіраецца ўсплёск крытычных ацэнак Лондана, чым і прапануе скарыстацца той жа аргенцінскі МЗС. На думку аднаго з яго клеркаў, трэба аператыўна арганізаваць інфармацыйную кампанію, мэтай якой будзе пачатак кансультацый паміж Буэнас-Айрэсам і кіраўніцтвам архіпелагу. На першы погляд, дыпламат мае рацыю. Аднак сумнеўна, што жыхары Фалклендаў захочуць стаць грамадзянамі Аргенціны — з улікам перманентнага крызісу аргенцінскай эканомікі. У мінулым годзе інфляцыя аргенцінскага песа склала 36 працэнтаў, і гэта яшчэ разглядаецца як няпепскі вынік.

**Паводле французскай прэсы**

### ДАНІЯ. Ніводнага імігранта

Кіраўнік дацкага ўраду, які фарміруе сацыял-дэмакратычная партыя, Метэ Фрэдрэксан шакаваў сусветную сацыял-дэмакратыю. Насуперак таму, што звычайна эсдэкі пазіцыянуюць сябе як інтэрнацыяналісты, Фрэдрэксан паабяцала, што яе кабінет будзе дамагацца, каб ніводны імігрант не трапіў у краіну. Такога дэмаршу не дазваляюць сабе нават самыя-самыя кансерватыўныя ўрады. Пры гэтым колькасць мігрантаў, якія хочуць атрымаць прытулак у краіне, і так дастаткова нізкая праз упартае нежаданне Капенгагену прымаць іншаземцаў. У мінулым годзе на прытулак у Даніі дакументы падалі толькі 1547 чалавек (самая нізкая лічба з 1989 года). Зрэшты, магчыма, такую радыкальную заяву Фрэдрэксан зрабіла, каб нейтралізаваць крытыку з боку правай Народнай партыі, якая грае на ксенафобскіх пачуццях электарату. Аднак самае цікавае ў гэтай гісторыі — пазіцыя міністра па пытаннях міграцыі, які вітаў прапанову прэм'ергкі. Справа ў тым, што ён з'яўляецца сынам імігранта з Эфіопіі.

**Паводле брытанскай прэсы**

# З дыктатуры ў дыктатуру

Алег НОВІКАЎ

**У М'янме (былая назва краіны — Бірма) армія адхіліла ад улады законна абраны грамадзянскі ўрад, у нейкім сэнсе адправіўшы краіну ў часе прыкладна на 60 гадоў у мінулае.**

Улетку 1958 года ў Бірме здарыўся заціжны палітычны крызіс, падчас якога парламенту з-за адсутнасці ў ім стабільнай большасці не ўдалося сфарміраваць урад. У гэтых умовах прэм'ер-міністр У Ну прапанаваў перадаць уладу ўплывоваму, але фармальна палітычна нейтральнаму галоўнакамандуючаму У Не Віну, каб той «аднавіў у краіне закон і парадак» і павёў новыя парламенцкія выбары.

28 кастрычніка 1958 года пасля галасавання на пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў старшыня Ман Ба Саінг абвясціў, што У Не Він аднагалосна абраны прэм'ер-міністрам. Генерал узначаліў часовы ўрад і ўвёў жорсткія меры супраць апазіцыі. 20 лістапада 1958 года дэпутаты парламента Бірмы прынялі надзвычайны закон, які прадугледжваў да 7 гадоў турэмнага зняволення за распаўсюд антыўрадавай інфармацыі. У Не Він таксама пазбавіў правоў і прывілеяў шанскіх князёў.

У лютым 1960 года часовы ўрад правёў усеагульныя выбары. У Не Він саступіў уладу У Ну. Але ўжо 2 сакавіка 1962 года бірманская армія ажыццявіла ваенны пераварот. У Не Він выступіў па радыё і заявіў пра стварэнне Рэвалюцыйнага савета пад яго кіраўніцтвам і ўрада з 8 міністраў. З сакавіка дзеянне Канстытуцыі было прыпынене, а парламент распушчаны. У Не Він сустрэўся з палітычнымі дзеячамі краіны і заявіў, што прычынай перавароту стала патрабаванне Шанскай дзяржавы аб стварэнні Бірманскай Федэрацыі і падрыхтоўка сепаратысцкага паўстання. З Бірмы былі высланы прадстаўнікі Фонду Форда і Фонду Азіі, абвінавачаныя ў шпіянажы на карысць СЕАТ (Арганізацыя Дамовы Паўднёва-Усходняй Азіі).

У красавіку была апублікаваная палітычная дэкларацыя Рэвалюцыйнага савета «Бірманскі шлях да сацыялізму», у якой спалучаліся нацыяналізм, марксізм і будызм. Адначасова было вырашана, што краіна павінна пайсці па шляху будаўніцтва сацыялізму. Усе палітычныя партыі, акрамя кіруючай, распускаліся. Уся ўласнасць нацыяналізавалася. Аднак бірманскі сацыялізм быў незвычайным у праекцыі на Кітай або СССР. Бірма адмовілася інтэграваца ў савецкі або кітайскі блокі. Як вынік — рэжым не атрымліваў ніякай падтрымкі звонку, і інвестыцыйныя рэсурсы былі слабыя. Не дзіўна, што ўсе праблемы дасацыялістычнага перыяду захаваліся ў поўнай меры: беднасць, адсталасць сельскай гаспадаркі і крайняя неразвітасць прамысловасці.

Не спрыялі прыходу сацыялізму і асабістыя дзівацтвы генерала У Не Віна. Як піша адна з інтэрнэт-крыніц, «генерал праславіўся мноствам незразумелых ініцыятыў: ён не раз невядома дзеля чаго загадваў разбураць масты, а потым будаваць іх нанова. А аднойчы выдаў указ, які змяніў левабаковы рух у краіне на правабаковы… Спадзеючыся здабыць неўміручасць, ён купаўся ў крыві дэльфінаў, меў мноства каханак».

Бірманскі афіцыёз тлумачыў павольнае развіццё краіны «процідзеяннем буржуазных элементаў», хоць буржуазія і памешчыкі ў Бірме былі вельмі слабыя і нешматлікія, нядзольныя на супраціў ды не мелі палітычных структур. Значна больш моцны супраціў аказвалі мясцовыя камуністы, сепаратысты і бароны наркакартэляў.

У другой палове 1980-х гадоў У Не Він і яго атачэнне зразумелі, што бірманскі сацыялізм аганіззе, і трэба для пачатку хаця б спыніць інфляцыю. Дзеля гэтага абралі шлях, які праз тры гады паўтарыў савецкі прэм'ер Віктар Паўлаў, — вырашылі выключыць з грашовага абарачэння некаторыя банкноты, паменшыўшы грашовую масу на 80%. Уладальнікі гэтых купюр імгненна сталі жабракамі. Не дзіўна, што мільёны людзей выйшлі на вуліцы. Сістэма захісталася. Пратэстоўцаў падтрымалі некаторыя чыноўнікі і нават вайскоўцы. Але ў выніку стары парадак быў адноўлены. Хоць для гэтага, праўда, давялося расстраляць дэманстрацыю пратэсту, забіўшы некалькі тысяч чалавек.

**За шырмай «дэмакратыі» ішоў неўтаймаваны крадзеж. Кіраўнік хунты Тан Шве адкрыта наклаў на грамадзян «даніну» ў выглядзе падарункаў. У 2004 годзе сума «падарункаў» склала 700 мільёнаў еўра**

Неўзабаве генерал У Не Він сышоў у адстаўку, і нават папрасіў прабачэння ў народа, але па факце ён захаваў у руках рэальную ўладу. Адначасова ад сацыялізму было вырашана адмовіцца. Цяпер вайскоўцы пачалі будаваць рэжым, які абапіраецца на нацыяналізм і будызм (будысцкая царква пры гэтым была пастаўленая пад жорсткі кантроль). Для ідэалагічнага замацавання дзяржавы новага тыпу ў 1989 годзе ваенныя перайменавалі Бірму ў М'янму, а сталіцу Рангун — у Янгон. Адзін з генералаў абвясціў сябе нашчадкам бірманскіх каралёў.

Аднак і Буда не дапамог. У выніку ў 1990-х гадах давялося пагадзіцца на правядзенне свабодных выбараў. На іх перамогу атрымала апазіцыйная Нацыянальная ліга за дэмакратыю (НЛД) на чале з доктарам філасофіі Аўн Сан Су Чжы — дачкой нацыянальнага героя Бірмы генерала Аўн Сана. Зразумела, ваенныя ўладу ёй аддаваць не збіраліся: парламент быў аператыўна разагнаны, новыя тысячы людзей загінулі пад кулямі або збеглі за мяжу. Сама Аўн Сан Су Чжы аказалася пад хатнім арыштам, нягледзячы нават на тое, што праз нейкі час атрымала Нобелеўскую прэмію міра.

Пасля гэтага выбары ў краіне былі выключна «элегантнымі». На іх перамагала толькі праўладная партыя. За шырмай гэтай «дэмакратыі» ішоў неўтаймаваны крадзеж. Адзін з бірмазнаўцаў параўноўвае раскошу генералаў з шыкам блізкаўсходніх манархій. Кіраўнік хунты Тан Шве адкрыта наклаў на грамадзян «даніну» ў выглядзе падарункаў. У 2004 годзе сума «падарункаў» яму і яго сям'і склала 700 мільёнаў еўра. Зрэшты, спыніць крызісныя з'явы гэта не дапамагло.

У выніку давялося зноў ісці на саступкі. У 2012 годзе прайшлі давыбары ў парламент з 46 дэпутатаў. На 43 акругах мандаты атрымалі кандыдаты з ад партыі Аўн Сан Су Чжы. У выніку Ліга сфарміравала ўрад, які, праўда, карэктаваў сваю дзейнасць з вайскоўцамі. Аднак такі парытэт не задаволіў генералаў. Скарыстаўшыся ростам сацыяльнага напружання, 1 лютага 2021 года вайскоўцы заявілі пра фальсіфікацыі выбараў кіраўніцтвам Лігі і абвясцілі ваеннае становішча.

Безумоўна, на выступ іх натхніў і той факт, што Аўн Сан Су Чжы перастала быць іконай дэмакратыі ў вачах Захаду пасля таго, як яна адмовілася асудзіць рэпрэсіі ваенных супраць этнічнай мусульманскай меншасці. Не менш за 700 тысяч бірманскіх мусульман вымушаныя былі збегчы ў суседні Бангладэш.

Такім чынам, на гэтым тыдні Бірма завяршыла цыкл — ад дыктатуры праз сацыялістычны эксперымент, клерыкальную аўтакратыю і паўдэмакратыю зноў да дыктатуры. Ці доўга пратрымаецца такі стан рэчаў, сказаць цяжка. З аднаго боку, галоўны эканамічны партнёр краіны — Кітай, — не выказаў пратэсту праз путч. Але з іншага — ваенныя неаднаразова даказвалі, што пры іх праўленні ні пра які прагрэс гаворкі быць не можа. Не кажучы ўжо пра тое, што народ, пачынаючы з 1990-х, упарта галасуе за дэмакратаў.

# Ці праваліўся ў Расіі «беларускі бліцкрыг»?

Алег НОВІКАЎ

**Насуперак гучным акцыям за вызваленне, 2 лютага Аляксею Навальнаму ўмоўны тэрмін замянілі на рэальнае зняволенне — 3,5 года калоніі агульнага рэжыму. Адразу ж пасля абвяшчэння прысуду паўстала пытанне: ці ёсць у расійскіх пратэстаў будучыня?**




Фота www.bbc.com

Вядома, ёсць — упэўненыя самыя паслядоўныя навальністы. Хаця б таму, што пратэстоўцы, на іх думку, паказалі: улада не можа забараніць грамадзянам выходзіць на вуліцы, каб выказаць сваё меркаванне. Гэта без уліку таго, што ў найноўшай расійскай гісторыі пратэсты не мелі такой шырокай геаграфіі (два разы запар на выходных акцыі сабралі незадаволеных больш чым у 170 гарадах).

Турэмны тэрмін для Навальнага, на самай справе, яшчэ больш пагоршыць становішча рэжыму Пуціна. Адпраўка апазіцыянера ў калонію стане падставай для незадавальнення на Захадзе і патрабаванняў вызваліць Навальнага. Пад уплывам інфармацыйнай кампаніі на вуліцу могуць падцягнуцца новыя актывісты. Пачуццё маральнай правы сваіх дзеянняў ім будзе надаваць новая лідарка апазіцыі Юлія Навальная, чый муж несправядліва трапіў за краты. Лічыцца, што Юлія вось-вось абвесціць пра свой намер распачаць палітычную кар'еру.

Парадаксальна, але ў лагеры праціўнікаў Навальнага ў гэтыя дні таксама адкаркоўваюць шампанскае. Пуціністы ўпэўненыя, што Расія здолела вынайсці не толькі вакцыну супраць каронавіруса, але і супраць «беларускага бліцкрыгу». Такая выснова робіцца на падставе шэрагу аргументаў.

Пасля першай акцыі пратэсты колькасна сталі меншымі. Таксама рэзка негатыўнае стаўленне расіян выклікала цік-ток-агітацыя нібыта за вывад на вуліцы школьнікаў, пра што ўвесь час кажуць праўладныя медыя. Адмоўна паўплывала на статыстыку выхаду на акцыі «хейт» на адрас папулярнага коміка Сямёна Слепакова, якога, дарэчы, цяжка назваць пуціністам. Узровень падтрымкі Навальнага таксама знізіўся з-за супярэчлівых момантаў у яго фільме пра «палац Пуціна». Урэшце, прыклад Украіны застаецца прычынай упэўненасці сілавікоў у правільнасці сваіх дзеянняў падчас хапуноў і жорсткіх разгонаў мітынгаў.

Але самае галоўнае — тое, што захавалася сістэма каардынатаў, у якой Крэмль адчувае сябе камфортна. Гэтая сістэма, дзе прысутнічаюць падступны Захад са сваімі замежнымі агентамі і мегапатрыёт Пуцін. Такім чынам, усе, хто настроены супраць Пуціна, абавязкова хочуць паставіць Расію на калені. Таму любая агітацыя апазіцыі ўспрымаецца электаратам перадузята, з апрыёрным падазрэннем, што за апазіцыянерамі тырчаць вушы ЦРУ.

У спрэчцы наконт перспектыў пратэставага руху і выжывання пуцінскага рэжыму літаральна днямі нечакана з'явіўся новы падыход. А што, калі апазіцыя зусім і не збіраецца бліжэйшым часам заклікаць грамадзян на акцыі?

На думку групы экспертаў, на гэтым этапе пуцінафобы і так шмат чаго дамагліся. Па-першае, Пуціну самому давялося публічна аспрэчваць абвінавачванні з нагоды свайго палацу. Іншымі словамі, усёмагутнаму палітыку ўпершыню ўдалося навязаць апазіцыйны парадак дня, выставіўшы яго пры гэтым у вельмі нязручным становішчы.

Па-другое, спрацавалі тэхналогіі, калі віртуальныя апазіцыянеры-«хамякі» ператвараліся ў рэальных вулічных актывістаў. Калі падтрымліваць у сеціве напал, то да восеньскіх думскіх выбараў сітуацыя для ўладаў вельмі ўскладніцца. Тады не пазбегнуць масавага руху ў падтрымку кандыдатаў ад несістэмнай апазіцыі, які можа перарасці ў маштабныя паствыбарчыя пратэсты. Пры такім сцэнары ў краіне паўстане абсалютна новая, незнаёмая для Пуціна і яго атачэння рэальнасць.

Прэса прызнае, што апанентам Пуціна таксама ўдалося паказаць межы магчымасцяў улады, якая здольная кантраляваць толькі мінімальную колькасць удзельнікаў вулічных выступаў. Вядома, на самай справе ўлады сітуацыю ўсё ж такі кантралявалі, але той узровень напругі, з якім яны гэта рабілі, стварае ілюзію слабасці сілавікоў. Узнікала адчуванне, што ў выпадку большай масавасці кантроль над сітуацыяй з боку сілавога апарату будзе страчаны.

І ці не ўпершыню пачаў даваць збоі прапагандысцкі лозунг наконт інтрыгаў Захаду. Разгоны ў рэгіёнах, дзе ўсе адно аднаго адносна добра ведаюць, разбураюць у людзей прапагандысцкую ўстаноўку, нібыта ўдзельнікі акцыі пратэсту — спрэс агенты заходніх разведцэнтраў. Магчыма таму ў рэгіёнах паліцыя давала мітынгоўцам пагуляць па вуліцах і ўвогуле дзейнічала менш жорстка. Іншымі словамі, нібыта атрымалася намацаць слабіну ўлады на месцах. У выпадку форс-мажору для сістэмы мясцовая вертыкаль, якая звычайна не любіць цэнтр, быццам, можа страціць лаяльнасць.

У гэтым ракурсе апошнія акцыі прапануюць разглядаць як манеўры перад рашучым наступам напярэдадні выбараў.

Як бачым, агульнага падыходу ў прагнозах наконт лёсу пратэстаў у Расіі няма. Не кажучы ўжо пра тое, што цяперашняя фронда можа працягнуцца — прычым, у цалкам новым фармаце з новымі лідарамі.

Кампартыя ўжо заклікала грамадзян выходзіць на ўсерасійскую пратэсную акцыю 23 лютага, якая, у адрозненне ад вылазак навальністаў, будзе легальнай. Падкрэсліваецца, што запрашэнне на акцыю, якая накіравана супраць сацыяльнай палітыкі ўрада, дзейнічае і для ўдзельнікаў выступаў у абарону Аляксея Навальнага. Некаторыя аўтарытэтныя камуністы (напрыклад, у Маскве і Іркуцку) раней адкрыта выступілі ў абарону людзей, што выходзілі на вуліцу, і супраць жорсткага падаўлення гэтых выступаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Уладзімір Гройсман



Лідар правацэнтрысцкай партыі «Украінская стратэгія Гройсмана», экс-прэм'ер Украіны спрабуе вярнуцца ў вялікую палітыку. Шлях на ўладны алімп Гройсману заступілі дзіцячыя казкі, а дакладней — казка-комікс «Прынцэса + прынцэса: доўга і шчасліва». Гэта кніжка падчас прэм'ерства Гройсмана была набытая для дзіцячых бібліятэк за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту.

Днямі стала вядома пра датычнасць да гэтай справы Гройсмана, што і выклікала скандал. Шмат хто лічыць, што казка пра прынцэс «утрымлівае прыкметы агрэсіўнай прапаганды аднаполых адносін». Мяркуючы па ўсім, цень скандалу можа трапіць і на фігуру Пятра Парашэнкі. На базе фракцыі яго партыі і фарміраваўся кабінет Гройсмана. Украінская прэса піша, што бібліятэчны скандал ставіць рэйтынгі гэтых палітычных сілаў пад пагрозу.

Ва Украіне па-ранейшаму моцныя гамафобія і непрыманне аднаполых стасункаў і шлюбаў. Дый самі Парашэнка і Гройсман неаднаразова давалі зразумець: яны — за традыцыйныя каштоўнасці. Сітуацыя яшчэ больш забаўная ў кантэксце сацыялагічных трэндаў, якія паказваюць устойлівы заняпад рэйтынгу Уладзіміра Зяленскага і яго партыі «Слуга народа». Паводле апошніх вынікаў сацапытанняў, «слугі» апусціліся на чацвёрты ўзровень падтрымкі з 11,2 працэнтамі. Затое выбарчы бар'ер пераадольвала партыя Гройсмана, за якую былі гатовыя прагаласаваць 5,3 працэнта ўкраінцаў. Калі пазачарговыя выбары адбудуцца бліжэйшым часам (а гэтага не варта выключаць) «прынцэсы» могуць пахаваць амбіцыі палітыка.

### Нікалас Мадура



Кіраўнік Венесуэлы, якога лічаць нелегітымным, па меркаванні некаторых, вырашыў канчаткова расправіцца з апанентамі, абвінавацішы іх у тэрарызме. Пра гэта заявіў старшыня Нацыянальнай асамблеі Венесуэлы (аднапалатны парламент краіны) Хорхе Радрыгес. Паводле яго слоў, апазіцыя спрабавала падарваць будынак парламента.

Сэнс заявы трошкі незразумелы, таму што апошнім часам рэжым стабілізаваўся. Парламент Балівaрыянскай Рэспублікі з 2021 года кантралюецца прыхільнікамі Мадура, паколькі апазіцыя байкатавала галасаванне з-за адсутнасці празрыстасці і сумленнасці выбараў. Праўда, новы парламент, які пачаў працу 5 студзеня, не прызналі на Захадзе. Аднак гэта не перашкодзіла Еўрасаюзу перастаць лічыць галоўнага апазіцыянера краіны Хуана Гуайдо часовым прэзідэнтам краіны пасля заканчэння тэрміну паўнамоцтваў папярэдняга складу Нацыянальнай асамблеі, у якім дамінавала апазіцыя.

Прыхільнікам Мадура было б лагічна развіваць гэты поспех і дачакацца пачатку працы новай адміністрацыі ў ЗША, бо дэмакраты, у адрозненне ад рэспубліканцаў, традыцыйна спрабуюць дамаўляцца з аўтарытарнымі рэжымамі ў Лацінскай Амерыцы. Зачыстка апазіцыі нават на падставе барацьбы з тэрарызмам можа выклікаць крытычныя каментары ў Белым Доме. Таму, верагодна, абвінавачванні ў тэрарызме шмат у чым маюць функцыю падтрымання стану мабілізацыі прыхільнікаў Мадура.

### Сі Цзіньпін



Улады Кітайскай Народнай Рэспублікі і лідар краіны прыступілі да новага этапу асіміляцыі этнічных меншасцяў. Гэтым разам пад каток патрапілі этнічныя карэйцы, якія пражываюць у правінцыі Гірын. Як правіла, гэта нашчадкі імігрантаў, што ўцякалі сюды з-за войнаў і голаду на карэйскім паўвостраве ў ХХ стагоддзі.

Увесь гэты час камуністычны Пекін досыць ліберальна ставіўся да культурных запытаў карэйцаў. У прыватнасці, у мясцовых школах больш за 60 гадоў прадметы выкладалі на кітайскай і карэйскай мовах. Цяпер прынята рашэнне выкарыстоўваць у навучальным працэсе галоўным чынам кітайскую мову. Хоць Канстытуцыя краіны асобным пунктам абараняе мовы меншасцяў, наўрад ці карэйцам ёсць сэнс аспрэчваць рашэнне. Вуснамі самога таварыша Сі было абвешчана пра пераход да «этнічнай палітыкі другога пакалення», мэта якой — зліць усе меншасці ў адзіную кітайскую цывілізацыю.

Цікава, што гэты курс легітымізуе таксама наступныя сцвярджэнні: Кітай рызыкуе сутыкнуцца з этнічнымі беспарадкамі і распадам, як у свой час СССР, калі не будуць адменены прывілеі нацыянальных меншасцяў. Між тым, беспарадкі якраз пакуль выклікала адмена гэтых прывілеяў, як гэта здарылася нядаўна ва Унутранай Манголіі, дзе скарацілі выкладанне на мангольскай мове. Цікава, якая будзе рэакцыя кітайцаў, якіх у Гірын каля мільёна чалавек.

# Гісторыю робяць не масы, а асобы

Ігар ЗЛАТАГУРСКІ,
вязень калоніі № 13

**Падаецца, агульнае меркаванне апазіцыйнай часткі беларускага грамадства — перакананне, што галоўнымі чыннікамі захавання ўлады дзейным кіраўніком краіны сталіся жорсткія дзеянні сілавых структураў па задушэнні пратэстаў і наўпроставая падтрымка з боку Расіі.**

## Дзякуй, што не падтрымалі

Безумоўна, умяшанне Масквы сваю ролю адыграла. Але ці было яно толькі адмоўным, калі паспрабаваць паглядзець не з пункту гледжання адно дня сённяшняга?

Калі б расійскі істэблішмент засвоіў урок Украіны і падтрымаў беларускіх пратэстоўцаў, а не ўладу, то фактычна забіў бы палю ў сэрца незалежнасці Беларусі, — падсілкаваны ўдзячнасцю ментальны ланцуг мацнейшы за ўсе іншыя. Магчыма, парваць яго беларусы ўжо б не здолелі.

І таму ўсе, для каго дзяржаўнасць і незалежнасць краіны — не парожнія гукі, мусяць дзякаваць Пуціну за тое, што ён не здрадзіў сабе. Па сутнасці, расійская афіцыйная (і не толькі) рыторыка наконт апошніх падзей у Беларусі і Расгвардыя ля яе мяжы пахіснулі расійшчыну ў галовах думаючых беларусаў гэтак, як не здолелі б адпаведная колькасць Зянонаў Пазьнякоў разам з Дзяржэпам ЗША. Пасля 9 жніўня 2020 года людзі ўбачылі, што расійская тэлепрапаганда, якой яны шчыра давалі веры, хлусіла датычна ўкраінскіх падзей гэтак жа, як сёння падае тое, што адбываецца ў Беларусі.

Разам з гэтым расійскі фактар нікуды не знікне і працягне ўплываць як на знешнюю і ўнутраную палітыку Беларусі, так і на розумы яе грамадзян яшчэ досыць працяглы час. Толькі пераўтварэнне беларусаў у самадастатковую нацыю здолее мінімізаваць яго ўздзеянне.

## Дзе тыя 4 мільёны?

Але не падтрымка Расіі захавала дзейсную беларускую ўладу.

На піках пратэставай актыўнасці на вуліцы Мінска выходзіла 300–400 тысячаў чалавек. Гэта шмат, вельмі шмат, але колькасць жыхароў сталіцы сягае пад два мільёны. Па ўсёй Беларусі пратэстоўцаў набіралася няхай мільён. А што астатнія восем мільёнаў беларусаў? Адкінем чатыры мільёны дзяцей і зусім старых, хаця апошнія маюць аднолькавае з усімі права голасу на выбарах і карыстаюцца ім. Дык якую пазіцыю ўзялі сама меней чатыры мільёны грамадзян Беларусі?

Спявачка, былая салістка Вялікага тэатра Беларусі Маргарыта Ляўчук у адным з інтэрв'ю распавядала пра наведванне роднай вёскі на Брэстчыне неўзабаве пасля выбараў: «У Мінску цяпер асаблівая энергетыка, а ў вёску прыязджаеш — там усё як і было… і там я як белая варона. Многія са старэйшага пакалення жывуць у невядомасці і не жадаюць чуць праўду, глядзяць і чытаць хоць нешта, акрамя дзяржаўных СМІ. Учора мне ўвогуле сказалі, што я знеслаўляю сваю сям'ю. Іх не пераканаць».

З інтэрв'ю сяброўкі страйкама МТЗ Ульяны Гарбачовай магчыма было даведацца пра сапраўдныя настроі рабочых прадпрыемства падчас першага жнівеньскага страйку: «Многія ў душы падтрымліваюць страйк, але самі баставаць не гатовыя. А яшчэ… для мяне быў такі непрыемны момант, калі нас прыехалі падтрымаць людзі, яны прывезлі ваду, ежу. Мы ўжо тады ведалі, што забастоўкі не будзе, але яшчэ стаялі на прахадной, спрабавалі сабраць працоўных. Але яны праходзяць міма, ім увогуле ўсё роўна… Бралі гэтую ежу, не разумеючы, для чаго яна, ішлі потым на "Крышталь" і ёй закусвалі».

Гэткую пазіцыю паспалітага насельніцтва прынята тлумачыць страхам за сябе і за сваю сям'ю, бояззю страціць адзіную для простага чалавека крыніцу грошай — працу.

Тлумачэнне нібыта спраўджвае досвед слонімца Яўгена Носіка, што вяртаўся дамоў з Мінска маршруткай, якая была спыненая пратэставым маршам. Насуперак незадаволенасці кіроўцы, ён выйшаў, каб бліжэй разгледзець людзей, што бралі ўдзел у акцыі, а па вяртанні пачуў: «Ты пра маіх дзяцей падумаў? Ты іх будзеш карміць, калі са мной нешта здарыцца? Навошта выходзіў?» Падтрымала кіроўцу і пасажырка: «Чалавек адчувае сябе бессмяротным… Добра, што мне сёння не ў начную змену».

Беларусы, што выходзяць на акцыі, таксама маюць сем'і і дзяцей, якіх трэба карміць. Ім, як і рабочым, грошы не валяцца з неба. І малаверагодна, што сярод іх пераважаюць мазахісты, якія мараць быць збітымі гумовымі кіямі. Але гэтыя людзі ўпарта тыдзень пры тыдні, месяц пры месяцы выходзяць пратэставаць. Выходзяць, адседзеўшы содні за кратамі і абцяжараныя вялікімі штрафамі за ўдзел у папярэдніх акцыях. Не зважаючы ні на што, працягваюць сцвярджаць: вынікі выбараў былі сфальсіфікаваныя, і патрабуюць новых.

Для даволі вялікай часткі беларусаў, сярод якіх пераважаюць гэтак званыя простыя людзі, права выбару не настолькі важнае, каб за яго ўпарта і працягла змагацца. Таму магчыма сцвярджаць, што ўдзельнікі пратэстаў выразна адрозніваюцца ад агульнай масы насельніцтва краіны.

## Нацыянальная буржуазія

Менавіта далучэнне прадстаўнікоў бізнесу і фінансавага сектару, айцішнікаў і людзей, так ці інакш звязаных з прадпрымальніцкай дзейнасцю ў разнастайных сферах вытворчасці і паслуг да інтэлігенцыі, з шэрагаў якой і раней рэкрутавалася значная частка беларускай апазіцыі, і надало пратэстам 2020-га года такі яскравы і незвычайны для Беларусі характар. З'яўленне заўважных элементаў грамадзянскай супольнасці, якой так бракавала ў краіне, і выразна бачны пачатак фармавання нацыі былі б немагчымыя без высілкаў гарадскога сярэдняга класу, бо толькі для месцічаў-буржуа яны і маюць значэнне.



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Нацыянальная дзяржава ўвогуле можа быць адно прадуктам дзейнасці нацыянальнай буржуазіі і ніяк інакш, бо толькі ёй ды яшчэ нацыянальнай інтэлігенцыі яна і патрэбная. Гэта для іх нашмат больш за астатняе насельніцтва важныя права голасу, адкрытыя і сумленныя выбары ўлады ўсіх узроўняў, палітычная канкурэнцыя і правы чалавека. Толькі пры гэтых умовах могуць быць рэалізаваныя вяршэнства закону і незалежнасць суда, змяняльнасць улады і збалансаванасць яе сістэмай стрымак і супрацьвагаў, што гарантуе абароненасць прыватнай уласнасці і права ўплыву грамадзян на дзяржаўную палітыку.

Гэта беларускі гарадскі сярэдні клас здолеў згуртаваць вакол сябе накіраваную на развіццё, а не на захаванне «стабільнасці» частку моладзі і тых грамадзян Беларусі, якім не патрэбная патэрналісцкая дзяржава, стаўся натхняльнікам і рухавіком пратэстаў, што не сціхаюць каторы месяц.

Менавіта гэтыя людзі, а не міфічны, невядома адкуль раптам паўсталы «народ», выяўляюць трываласць у барацьбе, самаахвярнасць і салідарнасць, якая ўражвае.

## Разышліся па розныя бакі?

Падобна, фразы кшталту «беларускае грамадства супраціўстаіць аўтарытарнай уладзе» і «цяпер герой — увесь беларускі народ, увесь без вынятку» напоўніцу не адпавядаюць рэчаіснасці.

Калі адны пенсіянеры штопанядзелак выходзяць на «марш мудрасці», то іншыя засыпаюць міліцыянтаў паведамленнямі пра месцы збораў пратэстоўцаў.

Настаўнікі, якія спрабуюць працягваць жыць з заплюшчанымі вачыма, самі прызнаюць, паводле Тамары Мацкевіч, што, у адрозненне ад іх, вучні «не маўчаць і больш не хочуць трываць атмасферу затхласці і цвілі».

Разышліся па розных палітычных баках бліжэйшыя сваякі: малодшы з вядомых братоў-гандбалістаў Рутэнка падтрымаў пратэсты, а старэйшы застаўся адданым дзейнаму кіраўніку дзяржавы.

Але з гэтага не вынікае, што чарговыя «элегантныя» 80% адпавядаюць ёй больш. Сапраўдныя настроі беларусаў — вельмі заблытанае пытанне.

Асаблівасць бягучай сітуацыі ў Беларусі ў тым, што ні ўлада, ні апазіцыя не ведаюць дакладна, ні хто насамрэч набраў большасць галасоў на мінулых выбарах, ні як размяркоўваюцца палітычныя сімпатыі беларусаў цяпер.

Не варта спрабаваць патлумачыць пасіўнасць звычайных людзей адно страхам перад уладай і гвалтам. Яны ж і насамрэч баяцца, але самы вялікі страх адчуваюць перад няпэўнасцю будучыні. Простыя беларусы за кароткі час перадвыбарнай агітацыі не перасталі быць «простымі», і сацыялістычная рыторыка ўлады па духу засталася ім бліжэйшай за ліберальна-рэфарматарскую рыторыку апазіцыі. Яны не перасталі баяцца канкурэнцыі, якая абавязкова ўзмацніцца ў выпадку перабудовы эканомікі і дзяржаўнага ладу. А існая ўлада цягам усяго панавання свой электарат ад канкурэнцыі тым ці іншым чынам намагалася абараняць, хаця з кожным годам рабіць гэта ёй усё цяжэй і цяжэй.

Не столькі расійскае ўмяшанне і гвалт, колькі пасіўнасць маўклівай беларускай большасці спрыяюць захаванню ўлады дзейным кіраўніком дзяржавы. Самы час набрацца мужнасці і прызнаць гэты прыкры для прыхільнікаў пераменаў факт. Яго адмаўленне пацягне за сабой шэраг фатальных памылак.

## Марныя спадзяванні на страйк

Адна з найбуйных — працяг спадзяванняў перамагчы ўладу з дапамогай страйкаў рабочых на дзяржпрадпрыемствах. Справа не ў тым, што гэтыя чаканні не спраўдзіліся ўжо двойчы.

Палітыка існай улады заўжды была накіраваная як на ўсебаковую наўпроставую і ўскосную падтрымку вытворчасці, так і на запавольванне працэсу скарачэння працоўных месцаў на дзяржпрадпрыемствах нават тады, калі становішча эканомікі вымагала супрацьлеглага. На дзве гэтыя мэты дзяржавай вылучаліся доўгатэрміновыя і танныя (часам увогуле дармавыя) крэдыты. Прызначаліся мытныя і падатковыя палёгкі. Буяў пратэкцыянізм. Усё гэта каштавала велізарных грошай, якія пазычаліся ўладамі за мяжой і выціскаліся з недзяржаўнага сектара эканомікі — таго самага, што нарадзіў бунтоўны сёння гарадскі сярэдні клас.

У апошнюю чаргу, у найдрабнейшым памеры, але рабочыя дзяржпрадпрыемстваў, гэтаксама, як і чыноўная вертыкаль Беларусі, ёсць бенефіцыярамі палітыкі ўладаў, якая праводзіцца больш за чвэрць стагоддзя.

Эканамічны крызіс можа падштурхнуць рабочых да страйкаў. Хваляванні рабочых могуць набыць маштаб, пры якім улада не ўстрымаецца і сыдзе. А рабочыя са сваімі праблемамі застануцца.

Як хутка палітыка стамляе шараговага чалавека нават у лёсавызначальны час, я пераканаўся, назіраючы за сваім сённяшнім атачэннем. Не мінула па выбарах і месяца, як пачулася: «Ды дасталі ўжо гэтыя навіны пра адно і тое ж! Давай кіно глядзець!» А на заўвагу, што бурлівыя палітычныя падзеі вырашаюць будучыню ўсіх без вынятку беларусаў, і вязняў у тым ліку, прагучала: «Не зачароўвайся — нічога не зменіцца».

Цікава, што пры гэтым сярод вязняў адкрытых сімпатызантаў дзейнага кіраўніка Беларусі ўсяго некалькі чалавек, астатнія нібыта не супраць пераменаў. Але я ўпэўнены: былі б яны сёння вольнымі — мала хто з іх выйшаў бы на акцыі хіба раз-другі.

Няхай змагароў за дэмакратычную Беларусь адносна не так і шмат. Гэта той выпадак, калі меншасць вартая іншай большасці. Асабістыя якасці грамадзян, што бяруць удзел у пратэставых акцыях, дазваляюць ім каторы месяц супрацьстаяць усяму сілавому блоку і ўладнае вертыкалі краіны. Не чаканне — магчыма, марнае — далучэння шырокіх слаёў насельніцтва, а руплівыя пошукі шляхоў далейшага заангажавання ў справу як мага большай колькасці людзей менавіта з тых колаў беларускага грамадства, што сталіся ядром пратэстаў, ёсць адзіным ключом для развязання палітычнага крызісу Беларусі.

Іншага не прадугледжваецца таму, што калі на вуліцы чарговага разу выйдуць тысячы і тысячы беларусаў, каб здабыць для Беларусі свабоду, а супраць іх пашыхтуюцца амапаўцы і спецназаўцы, каб вярнуць краіне былую стабільнасць, — абодва бакі мусяць усведамляць: у гэтую самую хвіліну за іхным змаганнем праз інтэрнэт з большым ці меншым напружаннем і цікаўнасцю будуць сачыць хіба што некалькі мільёнаў суграмадзян.

У гэтым няма нічога асаблівага ці дзіўнага. Па ўсім свеце і ва ўсе часіны гісторыю робяць не масы, а асобы. І пакуль асобы не звядуцца з нашай зямлі, Беларусь будзе жыць!

# Капскі збіраецца на сход

## Няўжо без гэтага не ўратаваць БАТЭ?

Сяргей КАЙКО

**Яшчэ з дзясятак гадоў таму беларускі футбол меў цудоўную візітоўку — клуб са сціплага горада Барысава. БАТЭ віраваў ва ўсю моц — выйграваў адзін чэмпіянат краіны за другім ды грымеў у еўракубках, дзе мог эфектна распатроніць нават мюнхенскую «Баварыю».**

Аднак час прайшоў — і ўсё змянілася. Шчасце скончылася, а карэта, што калісьці была залатой, ператварылася ў эпічны гарбуз. Барысаўскі феномен спазнаў дэкаданс. І нават на нацыянальнай арэне больш не дамінуе. У Беларусі два сезоны запар — іншыя чэмпіёны, а ў еўракубках заўзятары БАТЭ ўсё больш жывуць успамінамі. І спадзяванняў на дзівосны камбэк зусім не праглядаецца. Тут бы ўвогуле ўзбіцца хоць на нейкі трывалы шлях — і не сканаць пад ціскам знешнім абставінаў.

Вы скажаце: ну і што тут такога? Кожную сімфонію рана ці позна чакае апошні акорд. Любая імперыя рана ці позна развальваецца, як трухлявы сківан. Усё так, але, падобна, заняпад БАТЭ будзе абстаўлены іншымі дэкарацыямі. Прынамсі, без усеагульнага спачувальнага камлання, якое клуб за доўгія пераможныя гады, безумоўна, заслужыў. І нават без калектыўнай жалобы заўзятараў, якія гэтай зімой пакрысе адварочваюцца ад любімай каманды.

### Сядзеў і не высоўваўся

Дасведчаны чытач, вядома, пра прычыну ўжо здагадаўся. 11 і 12 лютага адбудзецца мерапрыемства, якое афіцыйна называецца Усебеларускім народным сходам. Традыцыйным хэдлайнерам яго будзе Лукашэнка, а агулам у ім возьмуць удзел 2700 чалавек.

Як на гэты сход адбіралі дэлегатаў, як туды марна спрабавалі трапіць «простыя смяротныя», чаму гэты форум падобны на тэатр аднаго акцёра і якая легітымнасць тамтэйшых рашэнняў — гэта, канешне, тэма асобнай размовы. Як, дарэчы, і тое, што Павел Латушка са сваім Народным антыкрызісным кіраваннем пагражае санкцыямі для ўдзельнікаў сходу ў выпадку, калі тыя аднагалосна і ў адзіным парыве наробяць там чагосьці антыканстытуцыйнага ды супрацьпраўнага.

Наша справа — футбол, і вось тут сталася так, што галоўны від спорту на УНС будзе прадстаўлены Андрэем Капскім. Кіраўніком і, фактычна, гаспадаром БАТЭ — ды, па-сутнасці, адзіным чалавекам з прафесійных футбольных колаў, якому на будучым тыдні пашанцуе



Андрэй Капскі вырашыў быць лаяльным

Фота www.pressball.by

моцна пляскаць у далоні ў гонар галоўнага дакладчыка.

На таемнай інаўгурацыі 23 верасня, памятаецца, было неяк весялей — прысутнічаў і старшыня федэрацыі Уладзімір Базанаў, і галоўны трэнер зборнай Міхаіл Мархель. Дый увогуле шырокая грамада спартыўнага бамонду. Цяпер жа адказваць за футбол збіраецца адзін Капскі — астатнія ці тое не пайшлі, ці тое іх не запрашалі. І гэта натуральным чынам выклікала ў грамадстве хвалю крытыкі, расчаравання і абурэння.

Раней Андрэй Капскі не быў заўважаны ў сімпатыях да рэжыму — сядзеў сабе ціхом ды не высоўваўся, як і большасць у памяркоўным нашым футбольным соцыуме. Тым больш БАТЭ паводле духу свайго, гісторыі і справаводства, клуб, хутчэй, прыватны. І чаго яму ўжо карціць адзначыцца ў рахманай масоўцы, якая рыхтуецца ўхваляць геніяльныя планы на будучую пяцігодку? Дый барысаўскую каманду наверсе цяпер асабліва не лашчаць — хутчэй, наадварот, выціраюць аб яе ногі, і нібыта атрымліваюць ад таго нават асалоду.

### Не пусцілі за мяжу — змаўчаў

У беларускім футболе цяпер міжсезонне. Каманды рыхтуюцца на новага чэмпіянату, трэніруюцца і спарынгуюць на зборах. Здавалася б, руціна, зацішша, але не зусім. Ці не ўпершыню ў гісторыі клубы вымушаныя ўжывацца ў новы трэнд на мяжы фантастыкі, ад якога яшчэ ўчора ў любога функцыянера альбо трэнера вочы б палезлі на лоб. Аднак час цяпер асаблівы, і вочы на месцы — лыпаюць, звыкаюцца з тым, што паводле нейкага эксцэнтрычнага чыноўніцкага ноу-хау футбалістаў у Беларусі зрабілі амаль што невыязнымі.

Раней клубы маглі самі планаваць свае зімовыя паводзіны — і шчыльнымі радамі ехалі за якасным трэнінгам у цёплае замежжа (часцей за ўсё, у параўнальна танную Турцыю). Цяпер жа — ніякага свавольства і самакіравання. Усё праз узгадненне на ўзроўні Мінспорту, а гэта той яшчэ біном.

Фактычна, выязныя гастролі забароненыя — маўляў, каб дзяржаўныя грошы заставаліся ў краіне. Рыхтуйцеся на радзіме, на палях з натуральнай сінтэтыкі — для таго вам манежы і пабудавалі. Большасць так і робіць, і гульцы пакорліва топчуць траўманебяспечныя штучныя газоны. Але ж з любога правіла, як вядома, ёсць красамоўныя выключэнні. І калі некаму вельмі хочацца зганяць за мяжу і адпрацаваць тактыку пад сонейкам і на сапраўдным грунце, то мытня, як у тым кіно, умее даваць дабро.

І вось ужо салігорскі «Шахцёр», які апякуецца магутны «Беларуськалій», паляцеў праграваць маторы ажно ў Дубай. І вось ужо брэсцкі «Рух» — клуб праўладнага бізнесоўца Аляксандра Зайцава — набіраецца моцы на турэцкім беразе. І вось ужо мінскае «Дынама» — праект, набліжаны да сілавога блоку, — становіцца лагерам у субтрапічным Сочы, дзе цёмныя ночы.

БАТЭ таксама хацеў выйсці ў людзі ў белых штанах, як той ільфа-пятроўскі Балаганаў. Аднак яго «ў вырай» не пусцілі. Міністэрства спорту заблакавала зборы барысаўчан у Турцыі, дый яшчэ патлумачыла гэта з пэўным цынізмам. Сядзіце дома, экс-чэмпіёны, бо, з аднаго боку, у Беларусі створаныя ўсе ўмовы для круглагадовай працы, а з другога — у свеце склалася зусім ужо цяжкая «эпідэміялагічная сітуацыя, выкліканая распаўсюдам каронавіруснай інфекцыі, у тым ліку выкліканай новым штамам, што быў выяўлены ў Вялікабрытаніі...»

Так БАТЭ дома і застаўся, а тут яшчэ — відаць, каб мала не падалося, — на Капскага наехаў і асабіста міністр Сяргей Кавальчук. На сумеснай калегіі Мінспорту і БФФ кіраўнік галіны фамільярна папракнуў барысаўскага менеджара: «Андрэй Капскі, ты не крыўдуй за БАТЭ. Вам адмоўлена». І дадаў, узнёсшыся ў эмпірэі: «Вялікі клуб, праславіў краіну на міжнароднай арэне, а колькі ўклаў за 25 гадоў у сваю школу?.. Не будзе дзіцячага футбола — не з'явіцца і дарослага».

Шэф БАТЭ і гэта маўкліва праглынуў, хаця яму было што адказаць. Бо калі і папракаць каго ва ўзнікненні аўгіевых стайняў у нашым дзіцячым футболе, то не ў першую чаргу Барысаў. Тут наўсцяж вінаватыя, і калі па коле прайсці, то да федэрацыі з міністэрствам таксама пытанні абавязкова знойдуцца.

Але дзяўбуць БАТЭ — як нейкага двоечніка, быццам «Баварыю» і «Арсенал» некалі перамагаў не ён, а мазырская «Славія» ці «Белшына» з Бабруйска. Быццам ён, а не «Шахцёр» з году на год вылятае з еўракубкаў на першых стадыях, праядаючы тлустыя дзяржаўныя бюджэты і прайграючы якім-небудзь малдаванам.

### Атрымаў спадчыну

Справядліва спытаць: а чаго дзяўбуць? На тое, як лічыцца, ёсць дзве прычыны.

Першая — застарэлая нелюбоў да Барысава з боку некаторых чыноўнікаў федэрацыі. Антыпатыя, саспелая яшчэ ў тыя часы, калі БАТЭ кіраваў іншы Капскі — Анатоль, самы паспяховы футбольны менеджар суверэннай Беларусі. Гэта ён стварыў клуб — і ад самых нізоў узнёс да касмічных вяршынь. Гэта ён аберагаў каманду, спарадзіў там славутую барысаўскую аўру, якая натхняла футбалістаў на буйныя перамогі. Гэта ён зрабіў БАТЭ камерцыйна паспяховым, а значыць — незалежным і самадастатковым. А паспяховых у Беларусі не любяць — і гэта назіранне не новае.

Кажуць, Капскі-старэйшы і цяпер бы не даў сваё дзецішча ў крыўду — ён умеў ставіць на месца апанентаў. Аднак гэтага мы ўжо дакладна не даведаемся, бо легендарны функцыянер сышоў з жыцця праз анкалогію яшчэ ў верасні 2018-га, на 53-м годзе жыцця. Сышоў — і пакінуў клуб на маладасведчанага сына, то-бок фактычна безабаронным.

Другая прычына кіраўнічай непрыязнасці да БАТЭ, здаецца, палягае ў палітычнай плоскасці. Не сказаць, каб Барысаў быў надта апазіцыйным, бо футбалісты, з іх зайздроснымі заробкамі пераважна ад дзяржаўнай шчодрасці, — не тое саслоўе. Аднак то паўабаронца Станіслаў Драгун выкажацца ў падтрымку баскетбалісткі Алены Леўчанка, то нападаючы Мікалай Сігневіч напіша сторыз за перамены, то гульцы ў адмысловым відэа выступяць супраць гвалту, то на матч зборнай выйдуць з белымі стужкамі...

Улады, асабліва апошнім часам, намастачыліся зводзіць з такімі рахункі — як у асабістым парадку, так і дзейнічаючы супраць цэлых асяродкаў. Таму, калі аднойчы Андрэй Капскі распавядзе пра сённяшнія змрочныя часы, без палітычнага чынніку яго расказ наўрад ці абыдзецца.

### Вырашыў дагадзіць

Але пакуль Андрэй Анатольевіч працягвае маўчаць. Прычыны свайго нечаканага дэлегацтва на УНС ён каментаваць адмовіўся, але ж яны і не схаваныя ў самай далёкай шуфлядзе.

Калісьці перад выбарамі, яшчэ на свабодзе, Віктар Бабарыка слушна казаў, што найлепшы гарант незалежнасці Беларусі — не прэзідэнт-патрыёт, а ў першую чаргу ўстойлівая эканоміка. Так адбылося і з самым тытулаваным клубам краіны. З-за пагаршэння вынікаў (у першую чаргу ў еўракубках) дабрабыт БАТЭ моцна пахіснуўся. І цяпер барысаўчанам будзе цяжка выжыць без дзяржаўнай дапамогі.

Насамрэч, гэтая дапамога прапісаная ў спецыяльных нарматыўных дакументах — і яе ў рознай ступені маюць ці не ўсе беларускія клубы. Але ж спецыфіка — як з тымі замежнымі трэніровачнымі зборамі: каб атрымаць болей, трэба быць у добрых стасунках з кіраўніцтвам. Трэба быць добранадзейным і хрыбетнікам адчуваць ваганні генеральнай лініі.

За тым, як мяркуецца, Капскі на сход і ідзе. Не ірвецца, вядома, але шматзначна прапанавалі — і тут ужо «або-або». Ці пагаджайся, дэманструй лаяльнасць і атрымлівай шанцы на фінансаванне, ці выжывай як хочаш.

І шэф БАТЭ вырашыў дагадзіць. Уліца ў шэрагі бюджэтнікаў, мясцовых дэпутатаў, чыноўнікаў ды яшчэ тых, хто прайшоў жорсткі ідэалагічны фільтр пры адборы. Наколькі вострая дылема перад ім стаяла — пытанне філасофскае, але адказ на яго трэба шукаць, маючы на ўвазе тысячы затрыманых, сотні палітвязняў, рэпрэсіі, звальненні, гвалт... Свая кашуля, вядома, бліжэй, але ж і салідарнасць, ахвярнасць беларусаў у гэтыя месяцы — не пусты гук. Тым больш, прасіць у дзяржавы, як паказвае практыка, — гэта працэс безупынны. Калі аднойчы руку працягнуць, потым давядзецца рабіць гэта зноў і зноў. Зноў і зноў — плацячы па рахунках.

Ну і хай сабе — вырашыў, дык вырашыў. Яшчэ, глядзі, і на выступ да мікрафону запросяць — як дзесяць гадоў таму Капскага-старэйшага. Тады, аднак, часы былі іншыя, дый стваральнік БАТЭ заставаўся шчырым прыхільнікам дзяржаўнага курсу. Цяпер усё змянілася — і настрой грамадства перш за ўсё. Здабываючы на часовы прыражытак зараз, лёгка страціць нешта большае, прычым — назаўжды.

Уласна, працэс пайшоў — ад БАТЭ пачалі ўжо адварочвацца заўзятары. А гэта, па гамбургскім рахунку, самае горшае, што можа быць у футболе.

# Працягваецца падпіска на «НОВЫ ЧАС»

**Сёння «Новы Час» можна атрымаць практычна толькі па падпісцы. Спадзяемся, да канца чэрвеня такая магчымасць у нашых чытачоў яшчэ застанецца.**

Таксама спадзяемся, мы патрэбныя нашым чытачам. Таму заклікаем усіх, хто да гэтага часу набываў нашу газету ў шапіках «Белсаюздруку», аформіць падпіску на «Новы Час». Зрабіць гэта можна ў любым паштовым аддзяленні. А таксама анлайн па спасылцы: https://belpost.by/onlinesubscription/items/22706

А тых, хто ўпершыню трымае асобнік газеты і каму яна спадабалася, будзем шчыра радыя бачыць сярод нашых падпісчыкаў.

Наша газета на сёння практычна адзіная крыніца незалежнай інфармацыі для закратаваных, таму нам вельмі важна захаваць выхад папяровай газеты. І таму мы звяртаемся па вашу падтрымку.

Па **24 лютага** можна аформіць падпіску на **сакавік**.

**Падпісны індэкс «Новага Часу» — 63279.**

Кошт падпіскі: на 1 месяц — 4 рублі 14 капеек.

Шаноўныя чытачы! Нам вельмі патрэбна ваша падтрымка!

***P.S.:** Часам у некаторых паштовых аддзяленнях кажуць, што няма такой газеты ці падпіскі на яе няма, ці падпіска забароненая. Гэта не так. Калі вы сутыкнуліся з такім, калі ласка, тэлефануйце ў рэдакцыю. Калі не атрымалі нумар па падпісцы, тэлефануйце ў сваё паштовае аддзяленне.*




ВЫРАТУЙ ЖЫЦЦЁ



## Ліза — сямейны тэрапеўт і лепшы сябра

**Калісьці ў Лізы было ўсё — утульны куточак, смачная ежа, любімы чалавек з ласкавымі, цёплымі далонямі. Але аднойчы ўсё змянілася...**

Яе любімая гаспадыня, вядомая валанцёрка і ратавальніца велізарнай колькасці катоў, памерла паўгода таму.

Ліза і каты засталіся адны. Хтосьці павандраваў па руках і неяк знайшоў дом. А Лізе давялося прайсці праз Гурскага, пабываць на некалькіх перетрымках.

Сабака Ліза шукае сям'ю і гаспадара для сумеснага пражывання і штодзённай радасці і шчасця. Ліза — самы выдатны, дасканалы і карысны з усіх здабыткаў, пра які можа марыць чалавек. Разумная як Эйнштэйн, лёгка разумее чалавечую мову, глядзіць у вочы — і бачыць сутнасць. Тэрапеўт, лечыць душу, ратуе ад неўрозаў. А таксама трэніруе сардэчную цягліцу гаспадара штодзённымі шпацырамі. Лёгка ўжываецца з усімі: катамі, іншымі сабакамі, падыходзіць для сем'яў з дзецьмі і для шаноўных спадароў сталага века.

Час ужо знайсці для асірацелай Лізы сям'ю.

Што яшчэ? Стэрылізаваная, прафілактычна агледжаная ветэрынарам, асаблівых праблем па здароўю не мае, узрост невядомы, парода таксама. Бадзёрая, вясёлая, ахвотная да шпацыраў, ласкавая, як кот, далікатная ў сумесным пражыванні. Прыгажуня. Зрэшты, гэта відаць на фота.

Тэлефануйце і забірайце:

**+ 375(29) 613-88-86** Кацярына (куратар)

**+ 375(29) 605-21-61** Наталля (перетрымка)




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №198

Падпісана да друку 04.02.2021. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.